ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№1 (58) студзень 2016 год

CATHOLICNEWS.BY


Фота БЕЛТА

# Святар з Віцебскай дыяцэзіі стаў лаўрэатам прэміі "За духоўнае адраджэнне"

**Ксёндз Чэслаў Курэчка з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў вёсцы Росіца Верхнядзвінскага раёна атрымаў узнагароду Прэзідэнта Беларусі "за важкі ўклад у захаванне міжканфесійнага міру і нацыянальнай згоды", а таксама "за ўдзел у духоўна-асветніцкай дзейнасці краіны і прапагандзе здаровага ладу жыцця".**

Айцец-марыянін прызнаўся ў інтэрв'ю Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё, што ўзнагарода для яго стала нечаканасцю.

"Я ніколі не хапаў зорак з неба, не шукаў славы, не думаў, што тут, у Росіцы, на краі свету, мяне заўважаць. Напэўна, Богу было так заўгодна, што даў мне гэтую ўзнагароду. Напэўна, бласлаўлёныя мучанікі Юрый і Антоній заўважылі маю працу. Гэта мяне радуе, але таксама і заахвочвае, падштурхоўвае, каб не спыняцца на дасягнутым, каб яшчэ больш працаваць з людзьмі, любіць іх, дапамагаць ім шукаць вечныя каштоўнасці, любіць сваю зямлю, краіну і ўсё святое, усё жывое, што ёсць на гэтай зямлі. З ласкай і дапамогай Божай пойдзем далей, каб зямля наша была больш прыгожай, а людзі – больш шчаслівыя", – сказаў святар.

*Працяг на стар. 3*



## Споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння а. Уладзіслава Чарняўскага

*Чытайце на старонцы 3*

# Як вызваліцца ад алкагалізму?

*Інтэрв'ю з чалавекам, якому гэта ўдалося, чытайце на стар. 8*



# Пытанні:

## Ці мае святар права спыніць споведзь?



*Чытайце на стар. 10*

## Ці магчыма пахрысціць дачку без дазволу мужа?



*Чытайце на стар. 10*

## Самагубства ў стане псіхічнага расстройства – грэх?



*Чытайце на стар. 11*

# Апладысменты братам-праваслаўным ад Папы Францішка



**“Веру ў адзіны, святы Каталіцкі і Апостальскі Касцёл”. Кожны раз, калі молімся гэтымі словамі, мы вызнаём сваю веру ў існаванне супольнасці вучняў Езуса Хрыста, якую заснаваў Сам Збаўца і якая трывае да нашых дзён. Гэтая супольнасць, каторую “не адолеюць брамы пекла”, захоўвае належныя ёй ад пачатку атрыбуты, сярод якіх – адзінства.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдамптарыст*

Кожны разумее, што сучаснае хрысціянства падзеленае і далёкае ад адзінства, аднак гэта зусім не азначае, што Касцёл Хрыста падзяліўся або страціў гэтую важную ўласцівасць. Касцёл Хрыста і надалей застаецца адзіным, хоць па-за ім існуюць супольнасці, што адышлі ад гэтага адзінства. Мы, католікі, лічым Хрыстовым наш Каталіцкі Касцёл. Касцёл, які застаецца адзіным, нягледзячы на тое, што яднае ў сабе мільёны людзей розных моў, культур, расаў, не задавальняецца недасканалым актуальным станам рэчаў. Сваім існаваннем і дзейнасцю праўдзівы Хрыстовы Касцёл будзе імкнуцца да паглыблення адзінства хрысціянаў, да вяртання страчаных частак.

Сярод розных хрысціянскіх напрамкаў найбліжэйшымі па веры да католікоў з'яўляюцца праваслаўныя. Менавіта праз тое, што розніца ў веры паміж намі найменшая, мы маем найбольшыя шанцы хутчэй аднавіць адзінства, якога жадае Пан. Пачатак гэтаму шляху да яднання быў пакладзены 7 снежня 1965 г., напярэдадні завяршэння Другога Ватыканскага Сабору, калі адбылася сустрэча Папы Паўла VI і Канстанцінопальскага Патрыярха Атэнагора. Каталіцкі і праваслаўны першаіерархі падпісалі тады сумесную дэкларацыю, у якой адмянілі даўнія ўзаемныя экскамунікі (адлучэнні) і далі пачатак актыўнаму збліжэнню паміж Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнай Царквой. Пасля гэтага падобныя сустрэчы і больш канкрэтныя захады сталі адбывацца рэгулярна, часцей. Пытанне адзінства заўсёды стаяла падчас служэння ўсіх папаў – ад св. Яна Паўла II да Францішка.

> **“Сярод розных хрысціянскіх напрамкаў найбліжэйшымі па веры да католікоў з’яўляюцца праваслаўныя”**

6 студзеня гэтага году Папа Францішак, віншуючы сабраных на плошчы св. Пятра ў Рыме са святам Аб’яўлення Пана, пажадаў міру і дабра католікам хрысціянскага Усходу, а таксама праваслаўным, якія адзначаюць 7 студзеня Раство Хрыстова, і разам з усімі прывітаў іх апладысментамі. Гэты маленькі жэст Святога Айца ёсць невыпадковым сведчаннем пошуку адзінства. Як навучае Другі Ватыканскі Сабор, “тых, хто сёння нараджаецца ў супольнасцях, якія ўзніклі ў выніку падзелаў, і хто жыве вераю ў Хрыста, нельга вінаваціць у граху падзелу, і Каталіцкі Касцёл ахоплівае іх братэрскай павагай і любоўю. Апраўданыя вераю, атрыманай падчас хросту, аб'яднаныя з Хрыстом, яны па праве носяць імя хрысціян, і сыны Каталіцкага Касцёла справядліва прызнаюць іх братамі ў Пану” (ККК 818).

Па традыцыі з 18 да 25 студзеня ў Каталіцкім Касцёле пройдзе чарговы “Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціянаў”. Далучаецца да гэтай акцыі таксама Касцёл Беларусі. У гэтыя дні кожны вернік мае цудоўную магчымасць паяднацца з сусветнай супольнасцю, каб адзіным парывам прасіць Пана блаславіць нашыя намаганні і наблізіць час, калі ўсе будуць адно (пар. Ян. 17, 21) і будзе “адзін статак і адзін пастыр” (Ян. 10, 16).

# Фотафакт





Манахіня са Славакіі Марыя Паўла Гудачкова з ордэна сясцёр святой Уршулі Рымскай Уніі катаецца на каньках на катку ў Браціславе.

Сястра Марыя Паўла – у мінулым былая прафесійная фігурыстка. Але сваё жыццё яна вырашыла звязаць з манаствам.

Сёння с. Марыя Паўла працуе настаўніцай матэматыкі і інфарматыкі ў пачатковай школе св. Уршулі ў Браціславе, таксама вядзе і медыйны гурток.

Спорт, як бачым, усё-такі застаўся чымсьці важным у яе жыцці, нягледзячы на манаскае пакліканне.

# В римских пекарнях пекут «хлеб гостеприимства»

**По инициативе Итальянской конфедерации ремесленников с первого дня Юбилея Милосердия более сорока римских пекарен начали производить «хлеб гостеприимства»: каждый желающий может заплатить за хлеб и не забирать его, а оставить в пекарне для бедных или для паломников.**

На хлебе пекарь делает надрез в форме креста.

Этот символический хлеб Юбилея Милосердия – не единственная помощь римских пекарей для бедных: здесь принято вообще не отказывать в таком драгоценном продукте обездоленным, которые не в состоянии заплатить.

Кроме того, пекарни безвозмездно отправляют часть продукции в различные благотворительные организации, следуя местной «заповеди»: никому не отказывай в куске хлеба.

*Радио Ватикана*



# Асія Бібі прабачыла сваім ганіцелям

**Асуджаная ў 2010 годзе на смяротнае пакаранне за меркаванае блюзнерства Асія Бібі, маці пяці дзяцей, даравала сваім пераследнікам.**

Пакістанская хрысціянка ўжо больш за пяць гадоў чакае выніку наступнай апеляцыі. Пад канец ліпеня пакістанскі суд адклаў выкананне прысуду, бо пакуль няма рашэння апеляцыйнага суда. Асія Бібі знаходзіцца ў турме для жанчын у Мультамі, правінцыя Пенджаб. Ужо сёмае Божае Нараджэнне яна сустракае ў няволі.

Напярэдадні святаў жанчыну змагла наведаць сям’я. Менавіта тады прагучалі словы аб прабачэнні тым, хто кінуў на яе несправядлівае абвінавачанне ў блюзнерстве. “Нараджэнне Бога – гэта свята міласэрнасці, – сказала пакістанская каталічка. – Прабачаю сваім ганіцелям, якія несправядліва мяне абвінавацілі, і прашу іх аб прабачэнні”.

Нягледзячы на пакуты і ізаляцыю, а таксама ўсведамленне таго, што яе закранула велізарная несправядлівасць, жанчына ўнутрана спакойная. Яна таксама прасіла ўсіх хрысціянаў свету аб малітве, каб чаканы па апеляцыі прысуд Вярхоўнага суда вызваліў яе ад прад’яўленага абвінавачвання.



*Паводле deon.pl*

# 100 гадоў з дня нараджэння а. Уладзіслава Чарняўскага

**14 студзеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння а. Уладзіслава Чарняўскага – беларускага каталіцкага святара, які праз пераклады на беларускую мову Бібліі і рыма-каталіцкіх літургічных тэкстаў зрабіў вялікі ўнёсак у сучасную беларускую культуру.**



## Выхаванец хрысціянскай інтэлігенцыі

Уладзіслаў Чарняўскі нарадзіўся 14 студзеня 1916 года ў пабожнай каталіцкай сям'і ў засценку Амбружын. Скончыў 4 класы Вішнеўскай школы (цяпер Валожынскі раён). У 5-ы клас пайшоў у мястэчку Крэва. Вучобу працягнуў у беларускай настаўніцкай школе ў Барунах. Пад уплывам свайго дзядзькі – ксяндза Францішка Чарняўскага – паступіў у гімназію ў Друі пры кляштары марыянаў.

Друйскі кляштар айцоў-марыянаў – адметная старонка ў беларускім рэлігійным жыцці. Ён быў заснаваны па ініцыятыве віленскага біскупа і генерала супольнасці марыянаў а. Юрыя Матулевіча ў 1923 годзе. Супольнасць марыянаў стваралася як беларускі рэлігійны асяродак, як кузня беларускай хрысціянскай інтэлігенцыі. Пасля заканчэння гімназіі Уладзіслаў Чарняўскі вырашае пасвяціць сваё жыццё Богу і паступае ў навіцыят Кангрэгацыі айцоў-марыянаў у Друі. Аднак доўга там ён не прабыў: летам таго ж года паліцыя выселіла з кляштара шэсць айцоў-марыянаў, у тым ліку і апекуна навіцыята айца Віталіса Хамёнка.

Давялося перабрацца ў Вільню, дзе існаваў Дом марыянаў, заснаваны ў сярэдзіне 30-х гадоў з ініцыятывы друйскіх святароў. Пасля Уладзіслаў Чарняўскі паступіў у Віленскую духоўную семінарыю святога Юзафа, якую скончыў у 1945-ым. У кастрычніку 1944-га ён атрымаў святарскія пасвячэнні з рук літоўскага біскупа Мечыслава Райніса. У канцы кастрычніка 1944 года ўжо святар а. Уладзіслаў Чарняўскі адправіў сваю першую святую Імшу ў Крэве. Да гэтай знамянальнай падзеі быў надрукаваны ў Літве і абразок-памятка пабеларуску. Пасля прымiцыі зноў вярнуўся ў Вільню. Працягваў жыць пры касцёле святога Ігната.

Айцец Уладзіслаў застаўся ў Вільні. У канцы 1949 года яго прызначылі пробашчам касцёла святога Мікалая. Праўда, служба тая працягвалася нядоўга. Праз тры месяцы яго адправілі служыць спачатку ў г. Укмерге, потым у Гегужыне, Ёрнішкі, Варэну, Эйшышкі. Пасля пераведзены ў Войстам, што на Смаргоншчыне, дзе служыў у касцёле Святой Тройцы. А ў кастрычніку 1953-га стаў пробашчам касцёла Панны Марыі ў Вішневе, на Валожыншчыне. Там правёў амаль усе гады сваёй душпастырскай дзейнасці.

## Руплівы перакладчык Бібліі

Уладзіслаў Чарняўскі быў сапраўдным маральным аўтарытэтам сярод беларускай інтэлігенцыі. На беларускамоўныя службы ў Вішнева і проста па маральную падтрымку і параду прыязджалі шматлікія беларускія грамадска-палітычныя дзеячы. Святар быў блізкі людзям. Многіх вядомых асоб ён хрысціў. У часы атэізму адзначаўся моцнай верай, яе абаронай перад націскам багаборчага рэжыму, вялікім клопатам пра яе захаванне і перадачу маладому пакаленню ў вельмі складаных умовах тых часоў.

У 1968 г. кс. Уладзіслаў Чарняўскі наведаў Ватыкан, дзе сустрэўся з Папам Паўлам VI, які даручыў яму заняцца перакладам Бібліі на беларускую мову.

У інтэрв'ю, дадзеным А. Бяляцкаму для "Хрысціянскай Думкі" (№ 214), ён узгадваў: "На той час генералам марыянаў быў Чэслаў Сіповіч, а біскупам для беларусаў за мяжою – Баляслаў Слосканс. Мы былі на прыёме ў Папы Паўла VI разам з біскупам Чэславам Сіповічам. Размаўлялі на лаціне. У той жа прыезд мне даручылі ад Кангрэгацыі Божага Культу перакладаць Біблію. Я вярнуўся і стаў перакладаць".

Давялося працаваць начамі, сутыкацца з праблемамі перакладу тэрмінаў, але праца была зробленая. Святар дачакаўся выдання свайго перакладу Новага Запавету на беларускую мову.

Памёр Уладзіслаў Чарняўскі 22 снежня 2001 года ў Мінску. Пахаваны ў мястэчку Вішнева (Валожынскі раён).

*Падрыхтавала Ірына Грэйць*



# Ксёндз Чэслаў Курэчка: "Мая мара – зрабіць зямлю прыгожай!"

## Святар з Віцебскай дыяцэзіі стаў лаўрэатам прэміі "За духоўнае адраджэнне"

*Працяг са стар.1*

Ксёндз Чэслаў нарадзіўся і вырас у Браслаўскім раёне. Разам са старэйшым братам у дзяцінстве з ахвотай дапамагаў бацькам па гаспадарцы. Спачатку хлопец з беларускай глыбінкі паспрабаваў сябе ў свецкай прафесіі – кухара.

"Мары пра Бога мяне наведвалі. Аднак думаў, што святарства – гэта не маё месца", – прызнаўся ён. Тым не менш, малады чалавек адказаў на заклік Бога і паступіў у Рыжскую духоўную семінарыю.

"Працаваў у розных парафіях на Віцебшчыне: у Оршы, Падсвіллі, Лужках. Стараўся, каб там квітнелі "райскія сады", каб было прыгожа. Уступіў у Кангрэгацыю айцоў-марыянаў. З 2007 года і да сённяшняга дня працую ў Росіцы. Гэта парафія, дзе загінулі два мучанікі, – Юрый і Антоній. Месца святое, намоленае. Сюды прыязджае і прыходзіць шмат пілігрымаў з розных куткоў Беларусі, каб "вырашыць" тут свае справы з Панам Богам, паразмаўляць з Нябесным Айцом, шчыра памаліцца, атрымаць духоўную палёгку, знайсці сэнс жыцця. І мы служым гэтым людзям так, як служылі бласлаўлёныя айцы Юрый і Антоній, якія былі з імі да канца. Гэта наша звычайная праца – служэнне людзям", – распавёў ксёндз Чэслаў.

Трэба нагадаць, што па выніках 2013 года святар ужо быў удастоены ганаровага звання "Чалавек года Віцебшчыны". Дзякуючы яго стараннем парафія Найсвяцейшай Тройцы ў Росіцы атрымала новае жыццё, тэрыторыя вакол касцёла стала прывабнай, добраўпарадкаваны могілкі. Тут растуць сотні кветак, экзатычнае кустоўе, цвітуць нават паўднёвыя магноліі.

Аднавілася і сама вёска. Зараз сюды ахвотна едуць і ідуць пілігрымы і турысты з розных куткоў Беларусі і іншых краін. Ксёндз Чэслаў кажа, што такім чынам ён рэалізуе сваю мару – зрабіць зямлю прыгожай.

*Наталія Байнаровіч*
*Фота Валерыя Салаўёва*

# Нужна Ваша помощь!



**Фоминская Анна Александровна**, 1997 года рождения.

**Диагноз:** Глиома правого таламуса. Состояние после вентрикулоцистоскопии в 2008 году. Вторичная окклюзионная гидроцефалия, С71.

Родные и близкие нуждаются в материальной поддержке на лечение и реабилитацию.

**Благотворительные счета** открыты в центре банковских услуг 208 – г. Глубокое, ул.Коммунистическая, 8а; УНП 300230580; МФО 150801648:

■ белорусские рубли – транзитный счёт 3819382309284 на благотворительный счёт 000014 в центре банковских услуг 208/Операционная служба, бессрочный;

■ евро – транзитный счёт 3819382311360 на благотворительный счёт 000007 в центре банковских услуг 208/Операционная служба, бессрочный;

■ доллары США – транзитный счёт 3819382311360 на благотворительный счёт 000025 в центре банковских услуг 208/Операционная служба, бессрочный;

■ российские рубли – транзитный счёт 3819382311360 на благотворительный счёт 000006 в центре банковских услуг 208/Операционная служба, бессрочный;

**Назначение платежа:** для зачисления на благотворительные счета Касевич Светланы Михайловны на лечение и реабилитацию за рубежом дочери Фоминской Анны Александровны.

Осуществить благотворительный платеж можно как в учреждениях банка, так и посредством услуги «Произвольный платеж (платеж по реквизитам)» в инфокиосках, Интернет-банкинге и М-банкинге.

**Не останьтесь равнодушными к тем, кому нужна Ваша помощь.**

# Топ-10 выказванняў Прэзідэнта пра Бога



Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка і арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч падчас наведвання Архікатэдральнага касцёла імя Найсвяцейшай Панны Марыі, 01.04.2013. *Фота president.gov.by*

**15 студзеня Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка перад дакладам пра меры, якія прымаюцца па мінімізацыі наступстваў неспрыяльных пагодных умоў, выказаў меркаванне, што беларусам неабходна дзякаваць Богу за вялікія снегапады.**

"Каталіцкі Веснік" зацікавіўся і іншымі выказваннямі Прэзідэнта, у якіх ён гаворыць пра Бога:

**1.** Перад дакладам пра меры ў справе мінімізацыі наступстваў неспрыяльных пагодных умоў Прэзідэнт адзначыў: ***"Надо благодарить Бога, что он нам послал эту стихию... Чем больше сегодня выпадет снега, тем быстрее мы восстановим экологическое равновесие, связанное с потерей влаги"***. *Belta.by*

**2.** У 2007 годзе Аляксандр Лукашэнка заявіў, што Рэспубліка Беларусь забяспечыла сябе збожжам і тым самым звяла да мінімуму наступствы росту сусветных цэн на зерневыя культуры: ***"Если говорить попростому, по-крестьянски, то Господь Бог в этом году нас спас"***, – падкрэсліў Прэзідэнт. *Interfax.by*

**3.** Аляксандр Лукашэнка пра выбух у мінскім метро, які адбыўся ў 2011 годзе, сказаў: ***"У меня выхода не было, как пойти и посмотреть, что там происходит и сразу же закручивать это расследование. Когда я уже выходил оттуда, я понял: нас Бог пожалел... Я подумал: а если бы это всё рвануло в массу людей? Там бы было как в Москве – минимум пятьдесят, а то и под сто погибших. Нас ещё Бог пожалел – по голове вдарил, чтобы мы не расслаблялись, но пожалел"***. *Ctv.by*

**4.** У 2012 годзе Прэзідэнт адказваў на пытанні замежных журналістаў пра сваю прэзідэнцкую будучыню: ***"Знаете, я у власти буду столько, сколько позволит мне Господь и белорусский народ, и мое здоровье, ну и желание мое еще... Потому что я ведь могу и не захотеть просто быть Президентом или нездоров буду, или Господь этого не позволит, или народ белорусский. Вот основные слагаемые для любого президента"***. *Interfax.by*

**5.** Аляксандр Лукашэнка ў чэрвені 2014 года выказаў меркаванне, што падзеі ва Украіне выкліканыя ўнутранымі прычынамі. Кіраўнік дзяржавы дадаў, што Беларусь праводзіць гнуткую, акуратную палітыку. Прэзідэнт адзначыў: ***"Это непростой путь, но тут выбирать нам не приходится. Господь предопределил нам такую судьбу. И нам надо видеть все, что происходит вокруг нас, действовать аккуратно, осторожно и не создавать проблем, прежде всего, своим соседям"***. *Belta.by*

**6.** Прэзідэнт Беларусі ў снежні 2014 года на сустрэчы ў Кіеве са сваім украінскім калегам Пятром Парашэнкам заявіў, што наша краіна гатовая заўсёды аказваць дапамогу Украіне:

***"Господом Богом нам предначертано жить на этой земле плечом к плечу. Мы всегда жили по-человечески***, – сказаў Лукашэнка. – ***Я хорошо знаю украинцев, знаю Украину, и для меня лично здесь никаких проблем никогда не было. Поэтому мы будем все делать для того, чтобы здесь было хорошо"***. *News.tut.by*

**7.** У сакавіку 2015 года падчас сустрэчы з губернатарам Курскай вобласці Расіі Аляксандр Лукашэнка сказаў пра адносіны Беларусі і Расійскай Федэрацыі: ***"Мы родные братья, нам Господом предопределено быть в этой дружбе и строить таким образом наши интеграционные отношения"***. *Mir24.tv*

**8.** Аляксандр Лукашэнка ў жніўні 2015 года падчас сустрэчы з прадстаўнікамі працоўнага калектыву ААТ "Белавежскі" і жыхарамі вёскі Расна, што на Брэстчыне, адзначыў:

***"Иногда думаю, вот президентские выборы – Господь испытывает. Не меня – вас. Ведь жили всегда неплохо, с прохладцей работали, и сейчас, вот в этот период, и Господь нам подкинул такую погоду, и вокруг мир обрушился: там война, там конфликты. И Господь решил проверить вас, насколько вы стойки и терпеливы в этом отношении. Я готов ко всему, я уже наработался, мы уже этого хлеба наелись. Вопрос в другом: надо сохранить страну для детей. И дай Бог, что бы мы вот хотя бы так, как сейчас, прошли этот этап. Вот так, чтобы не ухудшилось, – лучше не надо, лучше не может быть, я это вижу. Но чтобы именно так"***. *Ctv.by*

**9.** На пленарным пасяджэнні саміту ААН у верасні 2015 года ў сваім выступленні Прэзідэнт Беларусі сказаў: ***"Неужели, вступив в новое тысячелетие, мы так и не поняли, как хрупки мир и человеческая цивилизация? Я это сказал не для того, чтобы перечислить известные события, а чтобы сильных мира сего подвести к одной мысли. Понятно, сегодня нет той силы, которая бы вас остановила. Но ведь главы государств, совершающих кощунства, – все верующие, даже многие публично молятся. Но Господь же видит все. И он справедлив. А если разозлится и накажет виновных? Вас, ваши народы, которые пострадают безвинно за ваши авантюры"***. *Belta.by*

**10.** У гэтым годзе на Божае Нараджэнне кіраўнік дзяржавы, наведваючы Свята-Духаў кафедральны сабор Мінска, звярнуўся да прысутных у храме са словамі: ***"Первое наше обращение к Господу, чтобы Он действительно нас защитил и сохранил нашу страну такой, какой она есть сейчас. Большего мы просто не смеем просить сегодня. Потому что всё остальное зависит от нас. Ведь если будет мир, то человек сможет сделать всё"***. *Church.by*

*Падрыхтавала*
*Ірына Грэйць*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Юбілейны фестываль каляднай песні “Зорка Бэтлеему” прайшоў у Мёрах

**Атмасфера радасці і ўсмешак панавала ў Мёрах 5 студзеня 2016 года падчас XV юбілейнага фестывалю каляднай песні “Зорка Бэтлеему”.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Арганізатарам гэтага штогадовага конкурсу з’яўляецца кс. Кшыштаф Мянкіна, пробашч парафіі ў Мёрах. Як заўсёды, ад самай раніцы пачалі прыбываць маладыя таленты з кожнага куточка нашай Віцебскай дыяцэзіі, каб праславіць сваім спевам Маленькага Хрыста і падзяліцца з прысутнымі гледачамі той каляднай радасцю, якая пануе ў сэрцы кожнага ўдзельніка. У гэтым годзе маладыя вернікі прыехалі з Дзеркаўшчыны, Паставаў, Варапаева, Браслава, Глыбокага, Шаркаўшчыны, Наваполацка, Віцебска, Мёраў і ўпершыню прынялі ўдзел прадстаўнікі з парафій у Асвеі і Дуброўне. Сваімі спевамі дзеці і моладзь імкнуліся несці ўсім прысутным радасную вестку пра Нараджэнне Збаўцы.

Ганаровымі гасцямі “Зоркі Бэтлеему” былі біскуп Алег Буткевіч, генеральны вікарый кс. Францішак Кісель і лаўрэат Прэміі прэзідэнта “За духоўнае адраджэнне” кс. Чэслаў Курэчка MIC. Фестываль прыносіць шмат радасці як удзельнікам, так і слухачам гэтых цудоўных спеваў.

Вядома, самай эмацыйнай часткай праграмы было ўручэнне дыпломаў і аб’яўленне вынікаў. Журы ацэньвала ўдзельнікаў у некалькіх намінацыях.

**Вынікі:**

■ у намінацыі “Вакальна-інструментальны гурт”: 1-е месца – Мёры, 2-е – Дзеркаўшчына і гурт “Alis Angeli” з Браслава, 3-е – Глыбокае;

■ у намінацыі “Фальклорна-інструментальны гурт”: 1-е месца – Мёры, 2-е – Дуброўна, 3-е – Дзеркаўшчына;

■ у катэгорыі “Вакальныя гурты”: дыплом 1-й ступені – трыа “Зорачкі” з Браслава, дыплом 2-й ступені – Наваполацк, дыплом 3-й ступені – Паставы;

■ у сольнай катэгорыі “Дзеці”: дыплом 1-й ступені – Юлія Ожэл (Паставы), дыплом 2-й ступені – Ангеліна Разальва (Віцебск) і Ларыса Скрыпка (Паставы), дыплом 3-й ступені – Вікторыя Кашпур (Асвея) і Лера Бучаль (Паставы);

■ у сольнай катэгорыі “Моладзь”: дыплом 1-й ступені – Таццяна Ікановіч (Дзеркаўшчына) і Вікторыя Даргель (Мёры), дыплом 2-й ступені – Аліна Казаровец (Варапаева).

Таксама дыпломам за выкананне аўтарскай песні адзначаны Эдуард Ражанскі з Мёраў.

На заканчэнне біскуп Алег падзякаваў усім святарам і сёстрам законным, якія падрыхтавалі і прывезлі ўдзельнікаў, а таксама ўсім канкурсантам за тое, што падзяліліся сваімі талентамі.



Выканаўцы з Дуброўна ў беларускіх нацыянальных строях.




# Новы год у Далёкіх

**Кожны чалавек чакае свята, аднак у гэты зімовы перыяд ёсць адно асаблівае – свята Божага Нараджэння.**

■ **Ірына Высоцкая**, *тэкст;* **Эма Станкевіч**, *фота*

У касцёле Святога Станіслава ў Далёкіх перад святой Імшой 24 снежня адбылося святочнае прадстаўленне, якое дапамагло пагрузіцца ў атмасферу таго часу, калі свет чакаў прыйсця Збаўцы. Дзецьмі нашай парафіі была паказаная батлейка, якая апавядала пра нараджэнне Дзіцятка Езуса. Пасля святой Імшы, апоўначы, усе вернікі дзяліліся адно з адным аплаткай, просячы прабачэння і складаючы пажаданні.

Ёсць у парафіі яшчэ адна традыцыя – вітаць надыход новага каляндарнага года святой Імшой апоўначы 31 снежня. За паўгадзіны да поўначы ў касцёле адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту як магчымасць падзякаваць Богу за пражыты год.

Заўсёды знаходзяцца тыя, хто прыходзіць у гэты час на супольную малітву, адзін або ўсёй сям’ёй, таму што Бог заўжды дае чалавеку магчымасць выбару.

Напрыканцы Імшы пробашч Анджэй Бочар усім прысутным удзяліў благаслаўленне словамі з Кнігі Лічбаў: “Няхай блаславіць цябе Пан і беражэ цябе! Няхай Пан распраменіць сваё аблічча над табой і адорыць цябе ласкай. Няхай Пан скіруе на цябе свой погляд і адорыць цябе мірам”. Гэтыя словы сапраўды з’яўляюцца найлепшым пажаданнем на пачатак новага года.





# Фонд "Открытые сердца" приглашает мужчин в паломничество на остров Валаам

**Благотворительный фонд "Открытые сердца" организует мужское паломничество на остров Валаам в конце февраля (предположительно 19-22 февраля 2016).**

Валаам зимой – это чисто мужское место, монастырь, никакого гламура, круизных лайнеров и т.д. Туда можно добраться либо на судне на воздушной подушке, либо на лыжах – 40 км по льду Ладожского озера. Одним словом, чисто мужское дело. Поездка будет включать в себя не только размышления над сущностью отцовства и мужественности на основе библейских текстов, но и чисто мужские занятия – испытания на прочность. Если получится, то хотя бы в одну сторону мы планируем идти на лыжах от г. Сортавала (на берегу озера). До Сортавалы доедем на машинах, а дальше… Это будут впечатления, похожие на поход на Северный полюс, т.к. замерзшее Ладожское озеро очень напоминает Северный Ледовитый океан.

Приглашаем в это приключение мужчин и юношей от 10 лет и старше. По стоимости выйдет около 100 долларов с человека.

Так как предполагается что мужчины держат свое слово, то тем, кто запишется участвовать, отказаться будет можно только по причине смерти или тяжкой болезни. Другие причины не принимаются, просим это учитывать при принятии решения.

На данный момент записаны 6 человек. Кто с нами? Просим записываться – чем раньше, тем лучше.

**Контактная информация:** тел. +375293601715, +375298122276, prolife.belarus@gmail.com.

*Владислав Волохович*

# Божае Нараджэнне ў Дрысвятах

**Божае Нараджэнне – адно з самых шаноўных і важных святаў хрысціян-католікаў.**

Нашы парафіяне пад кіраўніцтвам пробашча Генадзя Ляўкова рыхтаваліся да гэтага яшчэ ў час Адвэнту. Самае галоўнае ў такой падрыхтоўцы – клопат пра стан душы. Духоўна падрыхтавацца да свята нам дапамаглі адвэнтавыя рэкалекцыі.

Ксёндз Генадзь разам з парафіянамі таксама рыхтаваў цудоўныя дэкарацыі ў касцёле. Пры дапамозе светлавых эфектаў было створана чароўнае ўпрыгожанне святыні. Заходзіш у касцёл нібы ў нябеснае царства! Творча і з фантазіяй была выканана батлейка. Пад цудоўную музыку вернікі падыходзілі да батлейкі, каб яшчэ і яшчэ раз пакланіцца Езусу Хрысту і ціха, спакойна памаліцца. Дзеткі прыходзілі да батлейкі палюбавацца прыгажосцю Нараджэння Пана. У іх ясных вочках можна было заўважыць сапраўдную радасць і Божую любоў.

У час урачыстай святой Імшы ксёндз Генадзь звярнуўся да прысутных са словамі: "Мы не толькі ўспамінаем Нараджэнне Хрыста, мы зноў і зноў сустракаем з'яўленне Бога ў гэтым свеце… Хрыстус не прыйшоў судзіць ці абвінавачваць нас. Ён прыйшоў ратаваць. Мы павінны паверыць у Яго бязмежную міласэрнасць".

Пасля святой Імшы ўсе дзяліліся аплаткамі са святочнымі пажаданнямі і прасілі прабачэння за дрэнныя ўчынкі. Сказаць нешта крыўднае, не заўважыць чалавека нескладана, а вось папрасіць прабачэння бывае цяжка. Аднак такую магчымасць многія выкарысталі ў гэты святы вечар.

Прыемна ўразіла ўсіх прысутных з'яўленне Святога Мікалая. Ён зазірнуў у касцёл, каб павіншаваць парафіян са святам Божага Нараджэння, а дзетак парадаваў багатымі салодкімі падарункамі.

Незабыўнае ўражанне засталося ад святочнага феерверку, які падрыхтаваў наш дарагі ксёндз Генадзь. Вялікая заслуга нашага любага, шаноўнага святара, што ўзвышанае, вялікае, добрае і душэўнае свята Нараджэння Пана атрымалася на славу!

Няхай добры Бог у гэтым годзе аддзячыць ксяндзу Генадзю за яго добрасумленную працу і цёплую сардэчнасць да людзей моцным здароўем, а яго любых бацькоў няхай блаславіць на доўгія гады жыцця!

*З павагай, парафіяне з Дрысвят (Браслаўскі раён)*

## Святая і светлая памяць

Адышоў у вечнасць **Станіслаў Кавальскі** – бацька айца-капуцына Тадэвуша Кавальскага.

Шмат гадоў жыве ў нашых сэрцах прыгожая памяць пра гэтага цудоўнага чалавека, які ў далёкія 90-я гады аж з Польшчы прыязджаў для таго, каб дапамагчы нам вярнуць да жыцця нашу святыню – касцёл імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве. Вельмі многа добрых спраў зрабіў ён у гэтым кірунку, меў залатыя рукі, разам з намі перажываў цяжкасці і радасці.

Для пана Станіслава – «Анёл Панскі...», а для яго родных няхай стане падтрымкай наша малітва: «Тваёй абароне аддаёмся».

*Парафіяне*

# Як правільна па-беларуску: "СЯМЕЙНЫ АЧАГ" ці "СЯМЕЙНЫ АГМЕНЬ?"

**Практыка сведчыць, што абодва прыведзеныя спалучэнні сёння ўжываюцца ў літаратурнай мове. Прычым як у друкаваных, так і ў электронных сродках масавай інфармацыі. І назоўнік *ачаг* у розных кантэкстах досыць прадуктыўны. Але ці варта яго выкарыстоўваць увогуле? Паспрабуем разабрацца.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Слова **ачаг** мае вязнае цюркскае паходжанне. Пра гэта сведчыць і аўтарытэтны "Этимологический словарь русского языка" Макса Фасмера (Мінск, 1971, Т. 3, с. 177). Але калі ў рускай мове цюркізмы – з'ява звычайная (параўнаем, напрыклад, *амбар, изюм, каблук, карандаш, палач, сарай, утюг, чердак* і г.д.), то ў беларускай яны ўжываюцца абмежавана.

В. Ластоўскі ў "Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" (Коўна, 1924) падае да лексемы **очаг** беларускія варыянты **агмень** і **вогнішча** (с. 439). У першай палове XX стагоддзя назоўнік **ачаг** у нашай мове ўжываўся рэдка, а пашырыўся на хвалі татальнай русіфікацыі ў 50-ыя – 60-ыя гады.

Напрыканцы 90-ых гадоў намецілася тэндэнцыя да звужэння сферы функцыянавання ў нашай літаратурнай мове лексемы **ачаг**. Так, напрыклад, рускае спалучэнне *очаг войны* па-беларуску стала перадавацца як *асяродак вайны*. Па аналогіі замацаваліся натуральныя беларускія канструкцыі *асяродак культуры* (не *ачаг культуры*), *асяродак захворвання* (не *ачаг захворвання*), *асяродак супраціву* (не *ачаг супраціву*) і г.д. Падобная сітуацыя захоўваецца і цяпер: назоўнік **асяродак** ужываецца тады, калі гаворка ідзе пра розныя сітуацыі, але не пра дамашняе ўтульнае "гняздо".

Назоўнік **агмень**, як сцвярджае прафесар П. Сцяцко, "этымалагічна больш празрысты, чым пазычанне *ачаг*" (П. Сцяцко. Культура мовы. – Мінск, 2002. – С. 226). Ён мае выразную матывацыю, якая непасрэдна карэлюе з паняццем *агонь* у самым шырокім яго сэнсе. Выкарыстанне згаданай лексемы рэгулярна адзначаецца як у тэкстах мастацкай літаратуры, так і ў перыядычным друку: *Спадчына, як пупавіна. / І досвіткам лучынай доўжыць / Імгненне прашчураўскага* ***агменю*** (Рыгор Барадулін); *Як-ніяк свой кут, свой* ***агмень*** *у яго ёсць* (Аляксей Дудараў); *У гэтым доме збіраюцца жыць нашы знаёмыя – нарэшце ў ім запалаў сапраўдны* ***агмень****!* ("Звязда", 8.10.10).

Такім чынам, па-беларуску варта казаць **сямейны агмень**, а не *сямейны ачаг* або, напрыклад, *жанчына стварыла ўтульны* ***сямейны агмень*** (а не *сямейны ачаг*).

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **парафіяне з Браслава**, **Кончыц І.М.** *(Гомель)*, **Вераніка Абуховіч** *(в. Дунілавічы)*, **Аліна Маслоўская** *(в. Ахрэмаўцы)*, **Ганна Карніловіч** *(Глыбокае)*, **Кушэль Е.Б.** *(Докшыцы)*, **Ганна Курыловіч** *(Шаркаўшчына)*, **Соф'я Кулік** *(в. Мікелеўшчына, Мастоўскі р-н)*, **Зоф'я Салодкая** *(в. Гірстуны)*, **Зося Калматовіч** *(Варапаева)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Ганна Мончак** *(Ашмяны)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*, **Даната Пачкоўская** *(в. Савуткі)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ядвіга Кісель** *(Вілейка)*, **Лілія Казлоўская** *(в. Пагошча)*, **Юзаф Хаданёнак** *(в. Германавічы)*, **Ядвіга Мядзведзкая** *(в. Сталіца, Шаркаўшчынскі р-н)*, **Валянціна Маісеева** *(в. Сталіца, Шаркаўшчынскі р-н)*, **Яніна Бруйко** *(в. Пашкі, Шаркаўшчынскі р-н)*, **Леаніда Закрэўская** *(Новы Пагост)*, **вернікі з браслаўскай парафіі**, **Вышадка Станіслаў** *(в. Завараты)*, **Юзаф Павучонак** *(в. Сынадворцы, Шаркаўшчынскі р-н)*, **Марыя Кісель** *(Глыбокае)*.

**Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:**

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
*вул. Савецкая, 1*
*211800 г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Каляндар на люты

**2 лютага – свята Ахвяравання Пана.**

Яго традыцыйна называюць яшчэ святам Маці Божай Грамнічнай, або Грамніцамі. Пачынаючы ад IX стагоддзя, вернікі ў гэты дзень прыносяць у касцёл свечкі дзеля дабраславення, якія называюцца грамнічнымі. Назва гэтая паходзіць ад слова "гром", бо іх запальвалі падчас буры, навальніцы, ставілі ў вокны і маліліся аб аддаленні грому. Запаленую грамнічную свечку таксама даюць у рукі чалавеку, які паміраe, каб Найсвяцейшая Панна Марыя прывяла яго душу ў неба.

**3 лютага – успамін святога Блажэя.**

Па прафесіі ён быў лекарам, а па пакліканні – біскупам Себастыі. Касцёл ушаноўвае яго 3 лютага, а на працягу ўсяго года яго заступніцтва просяць тыя, у каго хваробы горла адбіраюць голас і радасць жыцця. У гэты дзень у нашых касцёлах асвячаюцца свечкі, якія называюцца "блажэйкамі". Святар выкарыстоўвае гэтыя свечкі, прыкладваючы іх да горла, для ўдзялення бласлаўлення, якое павінна ахоўваць ад хваробаў горла, а таксама ад усялякага зла. Пра святога Блажэя варта таксама памятаць, калі, прыступаючы да споведзі, мы адчуваем «косткy ў горле», якая перашкаджае нам вызнаваць цяжкія грахі.

**5 лютага – успамін святой Агаты.**

Маладая дзяўчына, якая, прагнучы захаваць чыстасць і вернасць Хрысту, прыняла мучаніцкую смерць у Катаніі, на Сіцыліі, каля 250 г. Праз год пасля яе смерці адбылося выявяржэнне вулкана Этна. Патокі лавы пагражалі знішчыць увесь горад, але яны спыніліся, калі жыхары Сіцыліі, просячы ў малітвах заступніцтва Агаты, паклалі на іх шляху вэлюм, што належаў святой.

Дзякуючы гэтаму цуду Агату пачалі лічыць апякункай, якая ахоўвае ад пажараў. Яе культ хутка распаўсюдзіўся ва ўсім Касцёле, а імя святой згадваецца ў Рымскім Каноне. Згодна з традыцыяй, у дзень яе ўспаміну асвячаецца "хлеб святой Агаты", а таксама вада і студні.



**10 лютага – Папяльцовая Серада.**

Папяльцовая Серада распачынае перыяд Вялікага посту, які доўжыцца 40 дзён. Традыцыйна ў гэты дзень адбываецца абрад пасыпання галоў попелам. Сам звычай пасыпання галоў попелам на знак жалю і пакуты вядомы ў многіх культурах і традыцыях. Мы знаходзім яго як у Старажытным Егіпце і Старажытнай Грэцыі, так і ў індзейскіх плямёнаў, а таксама, вядома, на старонках Бібліі, напрыклад, у Кнізе Ёны або Ёэля. Літургічная адаптацыя гэтага звычаю з'яўляецца, аднак, толькі ў VIII стагоддзі. Першыя сведчанні пра асвячэнне попелу з'яўляюцца з X стагоддзя. У наступным стагоддзі Папа Урбан II увёў гэты звычай як абавязковы ва ўсім Касцёле. Таксама з таго часу паходзіць звычай атрымання попелу да пасыпання галоў вернікаў з пальмаў, пасвечаных у Пальмавую Нядзелю папярэдняга года.

**11 лютага – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Люрда.**

Сусветны дзень малітвы за хворых. У гэты дзень у святынях можна атрымаць сакрамант намашчэння хворых. Удзяляецца ён вернікам, якія знаходзяцца ў цяжкім стане хваробы.

*Падрыхтавала Марына Ткач*



### Сям'я – жыццяя майго калыска

З бацькоўскага дома ўзяла я з сабой
Надзею на шчасце, веру, любоў.
Яшчэ я з сабою ўзяла ў дарогу
Уменне прыходзіць на дапамогу,
Уменне дзяліцца , калі гэта трэба,
І шчырым словам, і лустачкай хлеба.

### У дзяцінстве

Дрэвы былі высокія,
А рэчанька наша – глыбокая.
Вадзіца ў ёй празрыстая,
Як дзіцячыя думкі, чыстая.

Сцяжынкі былі далёкія.
Пралескі цвілі сінявокія.
Хлеб найсмачнейшы – бабулін.
Пах велікодных булак.

На Каляды – куцця і ялінка.
У хаце радасці светлай часінка.
Усмешкі і словы лагодныя,
А вакол – усе родныя-родныя.

### Успаміны

Успаміны мае, успаміны...
Вось з сястрою іду па маліны,
А наперадзе крочыць наш тата
Па высокай траве непрымятай...

Вось другі ўспамін даганяе:
Разам з цёткай грыбочкі збіраем,
Ля асінак раз-пораз згінаемся –
З кашом поўным дадому вяртаемся.

Вось за братам спяшаю да рэчкі...
А вось мама пячэ перапечкі...
Дзядзька ўголас мне кніжку чытае...
За ўспамінам успамін прабягае.

Дзесяць душ было ў нашай сямейцы...
Усім знаходзіцца месца ў сэрцы.

*Алена Пажога*

## На люты прыпадаюць дні нараджэння і імяніны наступных святароў і біскупаў:

● **1 лютага** – гадавіну біскупскіх пасвячэнняў адзначае **біскуп Юзаф Станеўскі**, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі; дзень нараджэння адзначаюць **а. Раман Цесляк CSsR** (в. Парэчча), **кс. Ежы Беганьскі** (Ліда);

● **4 лютага** – дзень нараджэння і імяніны адзначае **а. Андрэй Шчупал CSsR** (в. Новая Руда);

● **5 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віктар Мыслюк** (Гродна);

● **6 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Антоні Грэмза** (ВДС Гродна);

● **7 лютага** – дзень нараджэння адзначае **а. Збігнеў Драгула CSMA** (в. Старыя Васілішкі);

● **8 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Міхал Стэцкевіч** (в. Бердаўка);

● **9 лютага** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Павел Калеснік** (в. Жодзішкі), **кс. Антоні Адамовіч** (Ліда);

● **10 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксей Асон** (Ушачы);

● **12 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вячаслаў Матукевіч** (Ліда);

● **14 лютага** – імяніны адзначаюць **кс. Валянцін Хведук**, **кс. Кірыл Бардонаў** (Люблін), **кс. Валянцін Станкевіч** (в. Волма, Дзяржынскі р-н);

● **15 лютага** – дзень нараджэння адзначаюць **біскуп Юрый Касабуцкі**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі;

● **16 лютага** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Юрый Ясевіч** (Гродна), **кс. Віктар Веліліс** (в. Грандзічы);

● **17 лютага** – імяніны адзначаюць **кс. Аляксей Асон** (Ушачы) і **кс. Аляксей Юркайць**;

● **18 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вадзім Прасяной SCJ** (Паставы);

● **19 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Гардзейчык** (Астравец);

● **20 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Пётр Пятрага** (в. Касцяневічы), імяніны адзначае **кс. Леон Лішык** (в. Волпа);

● **21 лютага** – імяніны адзначае **кс. Роберт Мацееўскі** (Мсціслаў);

● **22 лютага** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Кшыштаф Мянкіна** (Мёры), **кс. Віталь Внароўскі** (в. Адэльск);

● **23 лютага** – дзень нараджэння адзначае **а. Станіслаў Пытэль CSMA** (в. Васілішкі);

● **25 лютага** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Сяргей Якімовіч** (в. Мураваная Ашмянка), **кс. Леон Лішык** (в. Волпа);

● **26 лютага** – імяніны адзначаюць **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**, **біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, **кс. Аляксандр Мацкевіч**, **кс. Аляксандр Шэмет**, **а. Аляксандр Улас OFMConv** (Радашковічы);

● **28 лютага** – імяніны адзначаюць **кс. Раман Мурзіч** (Параф'янава), **а. Раман Цесляк CSsR** (в. Парэчча), **кс. Раман Ялоўчык**, **кс. Раман Катлімоўскі**, **кс. Раман Рачко**.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала Марына Ткач*

## Святая Жазэфіна Бакіта

### *(Літургічны ўспамін – 8 лютага)*

**У сваёй энцыкліцы "Spe salvi" Святы Айцец Бэнэдыкт XVI ставіць перад нашымі вачыма як прыклад надзеі афрыканскую святую Жазэфіну Бакіту. Чым яна прыцягнула ўвагу Папы і як можа дапамагчы нам?**

**■ а. Андрэй Сідаровіч MIC**



Жазэфіна нарадзілася ў Судане ў другой палове XIX стагоддзя. З дзяцінства ёй давялося спазнаць чалавечую жорсткасць: 9-гадовая дзяўчынка была выкрадзена з сям'і і на працягу пяці гадоў знаходзілася ў рабстве. Ёй карысталіся, як рэччу, неаднойчы збівалі на горкі яблык, здзекаваліся псіхалагічна. Апошні гаспадар забраў Жазэфіну ў Італію, дзе адбылася яе сустрэча з Богам.

Навяртанне абудзіла ў сэрцы Жазэфіны да гэтага неспазнаную сілу Хрыстовай надзеі. Жыццёвыя перажыванні яна ўбачыла ў іншым святле. Тая, што ўсё свядомае жыццё была пад гнётам людскога панавання, добраахвотна становіцца нявольніцай Хрыста – свайго Настаўніка. Сёстры з супольнасці сясцёр-канасіянак сведчаць, што ў кляштары сястра Жазэфіна бралася за самую цяжкую працу, за самыя няўдзячныя абавязкі.

Слава пра "матушку-негрыцянку" хутка распаўсюдзілася па Італіі. Ужо ў момант вечных шлюбаў многія лічылі Жазэфіну святой.

Святая Жазэфіна любіла паўтараць: "Калі б я сустрэла гандляроў рабамі, якія мяне выкралі ў бацькоў, а таксама тых, хто мяне катаваў, то стала б перад імі на калені і пацалавала б іх рукі, таму што калі б усяго гэтага не здарылася, я не была б хрысціянкай і законніцай". Сваімі словамі і жыццём яна яшчэ раз нагадала пра нязведаныя шляхі Божыя, якія заўсёды вядуць у адным напрамку – да сустрэчы з Панам Богам.

Святая Жазэфіна асабліва падбадзёрвае тых, хто ідзе шляхам жыццёвых пакутаў і выпрабаванняў, Тых, хто зняверыўся, што Бог ведае пра іх цярпенні. Тых, хто засумняваўся, што Ён усё яшчэ прысутнічае ў іх жыцці.

**8 лютага біскупы Беларусі заахвочваюць маліцца за вязняў і ахвяраў гандлю людзьмі.**

Каталіцкі ВЕСНІК №1(58) студзень 2016 г.

# Як вызваліцца ад алкагалізму?



**Вячаслаў Януковіч з Дзеркаўшчыны (Глыбоцкі р-н Віцебскай вобласці) доўгія гады пакутаваў ад страшнай залежнасці – алкагалізму. Ён пражыў няпростае жыццё і захацеў падзяліцца сваімі думкамі і перажываннямі з чытачамі "Каталіцкага Весніка". Вячаслаў не п'е ўжо восем гадоў і за сваю цвярозасць дзякуе Богу і сябрам.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

**– Вячаслаў, прызнацца ў сваёй слабасці на ўсю краіну – гэта подзвіг. Чаму Вы рашыліся на гэта?**

– Мне няма чаго баяцца і саромецца сёння, калі я цвярозы. Я зразумеў сваю праблему, і з дапамогай добрых людзей мне ўдалося пераадолець яе. Таму хачу падзяліцца сваім вопытам з іншымі. Магчыма, гэтае інтэрв'ю камунебудзь таксама дапаможа стаць на шлях выпраўлення.

**– Калі пачалася Ваша сумная гісторыя?**

– Цяжка дакладна акрэсліць пачатак алкагалізму. Разумееце, такога ж не бывае, што выпіў бутэльку віна – і ты ўжо алкаголік. Пераўтварэнне ў алкаголіка, як і вяртанне да цвярозасці – гэта ўсё працэс, расцягнуты на гады. Але калі казаць пра прычыны майго алкагалізму, то яны падобныя да прычыны большасці алкаголікаў савецкага пакалення. У савецкі час зарплата плацілася стабільна, дысцыпліны на працы залішняй не было, а гарэлка была танная. Там, дзе я працаваў, захоўвалася ўстойлівая традыцыя: кожную пятніцу пасля працы збірацца ў гаражы і выпіваць. Таму мой алкагалізм пачаў запускаць карэнне дзесьці ў 1988-м годзе. Гэта не заўважаецца. Спачатку сяброўская кампанія, п'еш раз на тыдзень, а праз нейкі час ужо і ў самоце выпіваеш, і п'янкі расцягваюцца на дні. Акрамя таго, у тыя часы самагонка была свайго кшталту валютай. Ёй разлічваліся за нейкія паслугі, за дапамогу ў сельскай працы. Без гарэлкі не абыходзіліся ніякія святы: і дзень народзінаў, і Дзень Перамогі, і 8 Сакавіка.

**– Ведаю, што Вы не п'яце з 2008 года. Можна падлічыць, што стаж выпівання ў Вас даволі вялікі – 20 гадоў. Якім чынам спрабавалі Вы перамагчы гэтую звычку?**

– У пэўным часе я зразумеў, што з гэтым трэба нешта рабіць, і таму згадзіўся на "падшыванне". Мне пад скуру пад левай лапаткай ушылі 10 таблетак і папярэдзілі, што ў выпадку, калі сарвуся, наступствы могуць быць згубнымі для здароўя. І ведаеце, што? Я не піў тры гады. Роўна столькі, колькі прадугледжвала гэтае лячэнне. Але потым хтосьці пачаставаў віном, і патроху я зноў уцягнуўся ў гарэлку.

**– Значыць, розныя "кадзіроўкі" і "падшыванні" ўсё-такі слаба дапамагаюць?**

– А як можа дапамагчы страх? Страх скончыўся, і я зноў запіў.

**– Што ж Вас уратавала?**

– За сваё ацаленне ад алкагалізму я ўдзячны айцу Вальдэмару Куяве, які тады працаваў у нашай парафіі. Неяк я прыйшоў да яго і ў роспачы сказаў: "Ойча, дапамажыце мне. Я хачу кінуць піць, але не магу. Што мне рабіць?" Тады ён параіў мне звярнуцца ў Таварыства Ананімных Алкаголікаў. Іх сустрэча якраз адбывалася ў Дзеркаўшчыне. Потым я паехаў на спатканне ў Глыбокае, і з гэтага часу пачалося маё аздараўленне, хоць я дакладна разумею, што вылечыцца ад алкагалізму нельга. Можна толькі ўзяць гэтую хваробу пад свой кантроль. Я ніколі не змагу выпіць ніякага алкаголю. Адзіны кілішак віна ці гарэлкі – і я зноў сарвуся. Таму лекі ад алкагалізму толькі адны – гэта поўная цвярозасць і праграма 12 крокаў Таварыства Ананімных Алкаголікаў.

**– Што самае цяжкае ў выхадзе з алкагалізму?**

– Першы год. Ён вельмі цяжкі, таму што існуюць спакусы выпіць. Ніхто табе не верыць, што ты кінуў піць. Я памятаю, на маім месцы працы, калі я не піў ужо год, мяне ўсё роўна пазбавілі прэміі за п'янства. Начальства проста лічыла, што я пускаю ім пыл у вочы, і па старой завядзёнцы вось так мяне грашова пакаралі. Ведаеце, мне нават і ў АА не ўсё адразу ўдавалася. Пасля месяца сустрэч я сарваўся і запіў. Але 2008 год быў апошнім, калі я пакаштаваў гарэлку. Да гэтага часу я не п'ю алкаголю зусім. У лістападзе адзначаю свой падвойны дзень нараджэння. 22 лістапада я нарадзіўся і ў лістападзе таксама перастаў піць. Цвярозае жыццё – гэта новае жыццё для мяне.

**– Дык што павінен зрабіць перш-наперш чалавек, які мае праблемы з алкаголем, каб стаць на шлях выпраўлення?**

– Прызнацца ў сваёй бяссільнасці і звярнуцца па дапамогу да Бога. Затым неабходная падтрымка супольнасці. Яе можна знайсці ў групах АА, якіх цяпер даволі шмат у Беларусі. Там ананімна збіраюцца людзі з такімі ж праблемамі, каб адно аднаго падтрымаць. Я сёння таксама шчыра дзякую ўсім, хто мяне падтрымліваў. Дзякую Богу і дзякую сваёй сям'і, асабліва жонцы, якая цярпела мяне, алкаголіка, і не кінула, а засталася са мной. Дзякую святарам і асабліва айцу Вальдэмару, які паказаў мне шлях да цвярозага жыцця. І, безумоўна, я вельмі ўдзячны сябрам з супольнасці Ананімных Алкаголікаў за тое, што былі і ёсць побач са мной у цвярозасці.




## 12 Шагов Ананимных Алкоголиков

1. Мы признали своё бессилие перед алкоголем, признали, что мы потеряли контроль над собой.
2. Пришли к убеждению, что Сила более могущественная, чем мы, может вернуть нам здравомыслие.
3. Приняли решение препоручить нашу волю и нашу жизнь Богу, как мы Его понимали.
4. Глубоко и бесстрашно оценили себя и свою жизнь с нравственной точки зрения.
5. Признали перед Богом, собой и каким-либо другим человеком истинную природу наших заблуждений.
6. Полностью подготовили себя к тому, чтобы Бог избавил нас от всех наших недостатков.
7. Смиренно просили Его исправить наши изъяны.
8. Составили список всех тех людей, кому мы причинили зло, и преисполнились желанием загладить свою вину перед ними.
9. Лично возмещали причинённый этим людям ущерб, где только возможно, кроме тех случаев, когда это могло повредить им или кому-либо другому.
10. Продолжали самоанализ и, когда допускали ошибки, сразу признавали это.
11. Стремились путём молитвы и размышления углубить соприкосновение с Богом, как мы понимали Его, молясь лишь о знании Его воли, которую нам надлежит исполнить, и о даровании силы для этого.
12. Достигнув духовного пробуждения, к которому привели эти шаги, мы старались донести смысл наших идей до других алкоголиков и применять эти принципы во всех наших делах.




## Группы АА в Витебской области

**г. Витебск**
**ВОЗРОЖДЕНИЕ**
ул. Гагарина, 46а, костёл Св. Антония.
Вторник, пятница – 19-00, воскресенье (открытое собрание) – 15-00
(8 033) 696 45 88
aa.vitebsk@mail.ru

**г. Верхнедвинск**
**НОВАЯ ЖИЗНЬ**
(08.05.2010)
ул. Советская, костел.
Воскресенье – 11.30
(8 029) 817 49 89
(8 021) 515 00 72

**г. Новополоцк**
**ЛОТОС**,
Костёл.
Вторник, пятница – 18-30, воскресенье – 15-00
(8 029) 215 58 01

**г. Орша**
**ВЫХОД ЕСТЬ**
ул. Советская, 6, костел.
Вторник, пятница – 18-00
(8 029) 763 18 50
(8 029) 897 93 03
e-mail: Alexeev1977@mail.ru

**д. Удело**
**ДОВЕРИЕ**
ул. Набережная, 2, костел.
Воскресенье – 18-00
(8 029) 299 13 48

**г. Глубокое**
**ТОЧКА ОТСЧЕТА**
ул. Советская,5, воскресная школа при костёле.
211800 Витебская обл., г. Глубокое, а/я 8.
Воскресенье – 14-00
(8 029) 519 03 21

**г. Браслав**
**ИСТИНА**
ул. Советская, 3.
Воскресенье – 10-00
(8 033) 359 97 02
e-mail: istina.braslav@yandex.by

**Адреса групп АА в других городах Беларуси можно узнать по телефонам:**

+375 17 206 79 14
+375 29 276 83 17
+375 44 780 73 29

или на сайте:
http://aabelarus.org

# Праз якія Святыя Дзверы Вы пройдзеце ў Год Міласэрнасці?

**У снежні 2015 года распачаўся Год Міласэрнасці і Папа Францішак адчыніў Святыя Дзверы ў базыліцы св. Пятра. Упершыню ў гісторыі з'явілася магчымасць адчыняць Святыя Брамы ў асобных касцёлах па ўсім свеце. У Беларусі было адчынена 17 сімвалічных Брамаў Міласэрнасці. А праз якія Святыя Дзверы збіраецеся прайсці Вы ў Год Міласэрнасці?**

*Ірына Грэйць*



**Ірына Петрусевіч:**
– Канешне, як мага часцей буду наведваць нашу мінскую архікатэдру. Мінчане маюць вялікую ласку – адчыненыя Брамы Міласэрнасці ў сваім горадзе. Безумоўна, Будслаў. Па меншай меры пілігрымкаю летам, а дасць Бог, можа і яшчэ калі наведаю. Гэта тое, што напэўна і рэальна. А Год Міласэрнасці мае вялікае значэнне, мы можам глыбей пазнаць Яго Міласэрнасць. Для гэтага ёсць і будзе шмат магчымасцяў. Думаю, што шмат людзей не ўсведамляе да канца, наколькі вялікая Божая Міласэрнасць і якую насамрэч мы маем зараз ласку для збаўлення нашага асабістага і нашых блізкіх памерлых. Спадзяюся таксама, што гэтая вестка аб Божай Міласэрнасці, святкаванне Году Міласэрнасці і магчымасць скарыстацца плёнамі гэтага Года дойдзе ў кожны куточак нашай краіны дзякуючы нашым добрым пастырам.



**Вольга Шафран:**
– На працягу доўгіх гадоў наведваю санктуарый, касцёл Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў мястэчку Гудагай, дзе перад абразом Найсвяцейшай Панны Марыі заўсёды знаходжу супакой, цішыню і адказы на многія пытанні. А ў снежні 2015 года мне выпала магчымасць папрысутнічаць на адкрыцці сімвалічнай Брамы Міласэрнасці ў гэтай святыні. Падчас адкрыцця адчувалася ўнутранае хваляванне таму, што прысутнічаю пры вельмі важнай падзеі, пры важным для Касцёла гістарычным моманце, а таксама важным і для мяне, таму што гэтая падзея зменіць маё жыццё і наблізіць мяне да Бога. У Год Міласэрнасці для мяне выпадае такая вялікая магчымасць раз у тыдзень, а нават і часцей праходзіць праз Браму Міласэрнасці санктуарыя. Праходзячы праз іх, можна атрымаць "дождж" Божай Міласэрнасці як для сябе, так і для блізкіх людзей. Аднак проста прайсці – гэтага мала. Калі выканаеш неабходныя ўмовы (споведзь, Камунія і малітва), пачне падаць "дождж" Міласэрнасці Айца. Бог, не звяртаючы ўвагі на мае падзенні, агортвае сваёй Міласэрнасцю і дае кожны раз новы шанец і новае жыццё. Калі мне даводзіцца прыйсці ў святыню з чалавекам, які не быў у ёй раней, не магу не расказаць яму пра Брамы Міласэрнасці і пра тое, што яны сабой уяўляюць. Каб гэты чалавек таксама мог бы скарыстацца магчымасцю для збаўлення.



**Раман Салахаў:**
– Так здарылася, што я на дадзены момант працую ў Маскве. Прыязджаць у родную краіну атрымліваецца раз ў адзін-два месяцы. Упершыню праз Браму Міласэрнасці я прайшоў у катэдральным касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Маскве. Аднак вельмі важна і сімвалічна для мяне было прайсці праз Святую Браму мінскай архікатэдры. Бо менавіта з гэтай святыні распачаўся мой шлях вяртання ў касцёл, або нават шлях другога нараджэння. За час свядомага жыцця з Богам шмат змянілася. Я адчуваю, як Госпад дзейнічае і вядзе мяне. Аднак часам я адыходжу ўбок, прымаючы рашэнні па-свойму, а не па Божаму. Таму для мяне гэта чарговы падарунак ад Бога, калі я магу даверыць Яму сябе, усё жыццё, усе праблемы і радасці, і па Яго бясконцай Міласэрнасці атрымаць прабачэнне. Такія магчымасці, якія ёсць дзякуючы Папу Францішку ў гэтым годзе, жыццёва неабходныя для тых, хто згубіўся на дарогах штодзённасці. Маю надзею, што ў гэтым годзе ў Касцёл вернуцца і прымуць Божую Міласэрнасць многія, нават тыя, хто забыў малітву "Ойча наш".



**Аксана Нядвецкая:**
– У Год Міласэрнасці абавязкова прайду праз Святыя Дзверы ў віцебскім катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага. Мне пашанцавала – я належу да гэтай парафіі, заўсёды наведваю гэты касцёл, таму няцяжка будзе выканаць умовы адпусту. Хочацца не толькі атрымаць адпуст, але і перажыць яго, адчуць. Трэба вельмі сур'ёзна ставіцца да споведзі, разважаць пра Божую Міласэрнасць, не забыцца пра ўчынкі міласэрнасці для душы і цела бліжняга. Калі будзе магчымасць, прайду праз Браму Міласэрнасці і ў Будславе. Ужо некалькі гадоў не атрымлівалася туды паехаць (у мяне маленькія дзеці). Спадзяюся, што гэтым летам усё атрымаецца.



**Дзмітрый Абрамовіч:**
– Падзея, якая адбылася ў снежні гэтага года ў Ватыкане, вельмі важная для сучаснага грамадства, што пакутуе ад спакусаў і грахоў. Вельмі важна даць чалавеку надзею на тое, што ён можа пераадолець, выстаяць і застацца чалавекам, Божым чалавекам. Год Міласэрнасці – гэта, канешне, выкананне ўчынкаў міласэрнасці для душы і цела бліжняга. На маю думку, вельмі важна зразумець, што чалавек, які міласэрны, які ахвяруе часцінку сваёй душы, робіць дабро для бліжняга, дапамагае нават словам, памятае і шануе памерлых, безумоўна, імкнецца жыць паводле Божых запаведзяў, становіцца бліжэй, прыходзіць хутчэй да Бога. Хачу ўзгадаць выказванне манаха Сімяона Афонскага: "Які чалавек хутчэй прыходзіць да Бога? – Міласэрны". Таму лічу, што ў нас ёсць магчымасць наблізіцца да Бога. Я пайду праз сімвалічую Браму Міласэрнасці, якая адчыненая ў архікатэдры ў Мінску. Але яшчэ важна не толькі прайсці праз яе, важна ўсвядоміць, што кожная думка, кожны ўчынак у штодзённым жыцці павінненны быць міласэрнымі. Гэта часта цяжка, але важна, каб адчуць сябе хрысціянінам.

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by

**Праз якія Святыя Дзверы збіраецеся прайсці Вы ў Год Міласэрнасці?**

- У Будславе; (18%, Галасы:32)
- У Мінску; (16%, Галасы:29)
- У Браславе; (15%, Галасы:28)
- У Віцебску; (15%, Галасы:27)
- У Гродне; (12%, Галасы:21)
- У Гудагаі; (4%, Галасы:7)
- У Лідзе; (3%, Галасы:6)
- У Баранавічах; (3%, Галасы:5)
- У Брэсце; (1%, Галасы:2)
- У Магілёве; (1%, Галасы:1)
- У Бярозе; (1%, Галасы:1)
- У Лагішыне; (1%, Галасы:1)
- У Росі; (1%, Галасы:1)
- У Тракелях; (1%, Галасы:1)
- Хачу прайсці праз Брамы Міласэрнасці за мяжой; (4%, Галасы:7)
- Не збіраюся праходзіць праз Брамы Міласэрнасці; (4%, Галасы:8)
- Іншы адказ. (3%, Галасы:5)

**Усяго прагаласавала: 182**



# Ці мае святар права спыніць споведзь?



***"Мне неаднаразова даводзілася чуць пра сітуацыі, калі ксёндз (верагодна, абураны якім-небудзь грахом) спыняе споведзь і прымушае чалавека выйсці з касцёла. Увогуле ці мае святар права так рабіць?"***
*Максім, 31 год*

**Адказвае кс. Андрэй Лішко:**

– Спачатку хацеў бы Вам падзякаваць за пытанне. Сітуацыю святара і пенітэнта – таго, хто спавядаецца, – трэба разглядаць асобна.

Згадзіцеся, калі святар адпраўляе пэўныя набажэнствы (у нашым выдадку – спавядае), ён хоць і з'яўляецца "іструментам" у руках Бога, але мае свае слабасці. Мне здаецца, што кожны, хто прыходзіць у Божы храм ці проста на размову са святаром, мае свае праблемы, цяжкасці, і, напэўна, шукае нейкай асалоды, ласкі, парады выйсця з крызісу, дапамогі, а можа, і проста хоча "выліць душу", штосьці распавесці, даверыцца, знайсці супакой і г. д.

Сітуацыя, калі святар мог не адпусціць грахі і спыніць споведзь, сапраўды можа існаваць. Я не апраўдваю ці "выгароджваю" святара, а толькі хачу сказаць, што святар – гэта таксама чалавек са сваім характарам, тэмпераментам, са сваімі праблемамі, перажываннямі.

У некаторых выпадках святар можа, а нават і павінен спыніць споведзь. Многія маладыя па гадах святарства ксяндзы (у Гродзенскай дыяцэзіі – да года святарства) не могуць "пры звычайных абставінах" разграшаць з некаторых грахоў (напр., грэх аборту). Ёсць грахі, зарэзерваваныя біскупу (напр., фармальнае адступленне ад веры; адпраўленне св. Імшы ці адпушчэнне грахоў асобай, якая не мае на гэта права; афіцыйная прыналежнасць да супольнасцей, якія ваюць з Касцёлам і інш).

Таму калі спавядае малады святар, які не мае юрысдыкцыі да адпушчэння таго ці іншага граху, то ён павінен ветліва і дакладна растлумачыць, што не можа разграшыць, і скіраваць пенітэнта да іншага святара. Але калі існуе пагроза для жыцця ці іншыя падобныя абставіны, нават малады святар можа адпусціць гэтыя грахі.

Ёсць такія грахі, якія, паводле "Кодэкса Кананічнага Права", зарэзерваваныя для Апостальскай Сталіцы (Экскамуніка latae sententiae). У гэтым выпадку, калі святар зарыентаваўся, што не можа разграшыць з таго ці іншага граху, ён павінен спыніць споведзь, растлумачыць пенітэнту сутнасць справы або прапанаваць яму сумесна напісаць спецыяльны ліст да Апостальскай Пенітэнцыярыі.

Працэдура няпростая. У ёй не згадваецца імя пенітэнта. Святар тлумачыць сітуацыю так, каб не здрадзіць таямніцы споведзі і самому не ўпасці ў кару экскамунікі. Пасля адказу Апостальскай Пенітэнцыярыі патрэбна дамовіцца з пенітэнтам пра сустрэчу на яшчэ адну споведзь і ўсё растлумачыць.

Наконт другой сітуацыі, калі святар прымусіў выйсці з касцёла. Скажу шчыра, я ніколі падобнага не чуў. Калі ж Вы такое насамрэч перажылі, ці з кімсьці такое здарылася, то гэта крыўдная і сумная справа. Я прашу за майго брата ў святарстве прабачэння. Не ведаю, чым кіраваўся гэты святар, але ён не павінен быў так рабіць: "прымушаць выйсці з касцёла" падчас споведзі. Напэўна, гэтая сітуацыя сведчыць пра непрафесіянальнасць, некультурнасць і нястрыманасць святара.

Такім учынкам ён мог пакінуць у сэрцы чалавека крыўду на Касцёл і святароў на многія гады. Напэўна, Хрыстос, найвышэйшы і найлепшы Святар, так ніколі б не зрабіў. Ён, як чытаем у Евангеллі, нікога не "адкідваў", нават Сам ішоў да вялікіх грэшнікаў. Аднойчы Езус увайшоў у святыню і ўбачыў, што там замест малітвы праходзіць гандаль. Ён "выганяе купцоў са святыні, раскідвае і пераварочвае іх сталы" (Ян 2, 12-15). Гэта быў адзіны выпадак, але тут справа зусім іншая. Таму яшчэ раз прашу прабачэння і звяртаюся да Вас з просьбай пра малітву за святароў.

Існуюць і такія выпадкі, калі святар зарыентаваўся, што падчас споведзі не здзейснена нейкая з умоваў добрай споведзі (іх 5). Напрыклад, хтосьці зусім не мае жалю за свае грахі, абыякавы ці не будзе выканана пастанова паправы (хтосьці жыве ў грамадзянскім шлюбе, без вянчання) і іншыя сітуацыі. Тады святар можа не адпусціць грахі, але ён павінен усё растлумачыць.

Кожная споведзь – гэта індывідуальная і асабістая справа. Таму вельмі важна рыхтавацца і перажываць споведзь, сакрамант пакаяння і міласэрнасці як святару, так і пенітэнту.

*grodnensis.by*

# Ці магчыма пахрысціць дачку без дазволу мужа?

***"Хвала Хрысту! У жніўні 2013 года нам з мужам быў удзелены Сакрамант Шлюбу. У чэрвені 2015 года ў нас нарадзілася дачка. Мы пераехалі да маіх бацькоў, муж крыху пажыў з намі, пасля чаго вярнуўся на кватэру, якую мы здымалі раней разам з яго бацькамі. Мой муж быў супраць хросту дачкі, пачаў жыць сваім жыццём: ездзіць на фестывалі, шашлыкі, пляжы... Гэта ўсё скончылася тым, што ён стаў жыць з іншай дзяўчынай і папрасіў развод. У мяне такія пытанні: ці магу я пахрысціць дачку без дазволу ці хаця б з дазволам, але без прысутнасці мужа? Ці магу я спавядацца ды прымаць Цела Хрыста? Якім чынам я магу атрымаць дазвол на асобнае пражыванне ці ануляванне нашага шлюбу і пры якіх умовах?"***
*Марыя*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**

– У Вашым выпадку хрост дачкі магчымы, а прысутнасць мужа пажаданая, паколькі ён мае права і абавязак займацца рэлігійным выхаваннем свайго дзіцяці. Варта запрасіць яго, а ўжо яго справа прыйсці ці не. Калі муж не хоча прысутнічаць пры хросце, было б добра, каб ён выказаў свой дазвол на хрост. Паразмаўляйце пра гэту справу са сваім пробашчам (настаяцелем). Падыдзіце да ксяндза той парафіі, на тэрыторыі якой Вы пражываеце. У хросце можа быць адмоўлена, калі няма надзеі на рэлігійнае выхаванне дзіцяці.



Вы можаце спавядацца і прымаць Камунію, калі не жывяце ў дзяржаўным шлюбе або так званым сужыцці (канкубінаце) з іншым мужчынам – г.зн., калі няма пастаяннага парушэння шостай запаведзі. Пры гэтым неабходна выканаць і іншыя ўмовы, які датычаць Сакраманту Споведзі і Эўхарыстыі.

Сужэнская здрада – дастатковая падстава, каб жыць асобна ад мужа ці жонкі. У такім выпадку Касцёл заахвочвае да прабачэння няверанаму мужу ці жонцы, аднак у Вашым выпадку падаецца, што другі бок сам не прагне, каб яму прабачылі. Таму Вы можаце жыць ад мужа асобна, не заключаючы новага шлюбу і захоўваючы чысціню.

Магчыма, Ваш шлюб увогуле не існаваў. Гаворка ідзе не пра ануляванне шлюбу, паколькі толькі смерць можа разлучыць сужэнцаў, а пра доказ і сцвярджэнне таго, што гэтага шлюбу ніколі не было. Такімі пытаннямі займаецца касцельны суд. Да супрацоўнікаў суда трэба накіраваць пытанне: ці належыць у Вашым выпадку прызнаць шлюб несапраўдным?



# Дзе ў Беларусі можна паўдзельнічаць у Трыдэнцкай Імшы?

***"Хвала Хрысту! У якіх парафіях Беларусі можна паўдзельнічаць у святой Імшы паводле экстраардынарнай формы Рымскага абраду?"***
*Максім*

**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP:**

– Шаноўны спадар Максім! Дзякую за цікавае пытанне! Трыдэнцкая святая Імша цэлебравалася да новых нормаў Другога Ватыканскага Сабору. Для таго, каб была магчымасць цэлебраваць такую Імшу, павінна быць адпаведная група людзей (каля 30 чалавек), якія больш-менш разумеюць лацінскую мову і такую форму літургіі. Для такой цэлебрацыі павінен быць адпаведна падрыхтаваны святар. Важна, каб мы, прыходзячы на літургію, сустракаліся з Эўхарыстычным Езусам, а не толькі ўдзельнічалі ў святой Імшы, як у тэатры. Святая Імша паводле экстраардынарнай формы Рымскага абраду адпраўляецца ў парафіі св. Барбары ў Віцебску кожную нядзелю а 15.00 (вул. Ленінградская, 27, тэл. 8 (0212) 36-04-18).

# Ці можа малады святар адпусціць грэх аборту падчас каляднай споведзі?

*"Хвала Хрысту! Мяне цікавіць наступнае пытанне: ці можа малады святар адпусціць грэх аборту падчас каляднай споведзі?"*
*Ганна*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Каталіцкі Касцёл абвяшчае праўду пра каштоўнасць чалавечага жыцця з моманту зачацця ажно да натуральнай смерці. Святы Ян Павел II адну са сваіх энцыклік, прысвечаных вартасці і непарушнасці жыцця чалавека, распачаў словамі: "Евангелле жыцця ляжыць у аснове паслання Езуса Хрыста. Касцёл кожны дзень прымае яго з любоўю, каб верна і адважна абвяшчаць як добрую навіну для людзей усіх часоў і культур".

Права на жыццё, якое ёсць Божым дарам, ахоўваецца запаведдзю "Не забівай", што абараняе асабліва слабых і безабаронных. Зачатая чалавечая істота, без сумневу, належыць да гэтай катэгорыі. Беручы пад увагу гэтую праўду, Кодэкс Кананічнага Права далучыў штучнае перарыванне цяжарнасці да злачынстваў супраць жыцця і свабоды чалавека. Хто свядома і добраахвотна здзяйсняе гэтае злачынства, не толькі цяжка грашыць, але і падлягае экскамуніцы (найвышэйшае касцельнае пакаранне).

> **Папа Францішак упаўнаважыў усіх святароў адпускаць грэх аборту і вызваляць ад экскамунікі на працягу Года Міласэрнасці**

Вернік, які здзейсніў штучнае перарыванне цяжарнасці і такім чынам падлягае экскамуніцы, можа яднацца з Богам і Касцёлам, калі навяртаецца, шкадуе і хоча выправіцца. Згодна з нормамі Кананічнага Права, вызваліць ад экскамунікі можа біскуп. Пераважна біскупы вызначаюць святароў, якім надаюць права вызваляць ад касцельных караў. Звычайна ў кожнай дыяцэзіі прызначаны дыяцэзіяльны пенітэнцыярый (адзін або больш), які спавядае ў катэдральным ці іншым вызначаным біскупам касцёле. У Мінска-Магілёўскай, Віцебскай і Пінскай дыяцэзіях згодна з пастановамі Сінода названых дыяцэзій (2000 год) вызваліць ад экскамунікі могуць душпастыры з пяцігадовым вопытам святарства (пар. Статуты Сінода 655).

Папа Францішак упаўнаважыў усіх святароў адпускаць грэх аборту і вызваляць ад экскамунікі на працягу Года Міласэрнасці, які распачаўся 8 снежня 2015 года і будзе працягвацца да 20 лістапада 2016-га. Папа імкнецца такім чынам дапамагчы паяднацца з Богам і Касцёлам тым, хто забіў ненароджанае жыццё, але шкадуе і просіць аб прабачэнні.



Асобе, якая здзейсніла грэх аборту і прагне паяднацца з Богам і супольнасцю Касцёла, трэба пайсці да споведзі і вызнаць свае грахі. Святар, які прымае споведзь, распазнаўшы стан пенітэнта і яго гатоўнасць прыняць прабачэнне, пры захаванні права або сам вызваліць ад экскамунікі і ўдзеліць абсалюцыю (адпушчэнне грахоў), або іншым чынам дапаможа ў працэсе ачышчэння (можа, напрыклад, параіць звярнуцца да адпаведнага спаведніка). Нельга дапусціць думкі, што святар не растлумачыць верніку, што яму рабіць. Вельмі важна, каб грэшнік, які хоча вярнуцца да поўнай еднасці з Богам і Касцёлам, зразумеў не толькі цяжар свайго граху, але і веліч Божай любові і міласэрнасці, вартасць і сілу прабачэння, праз якое Бог нанова ствараe і падымае чалавека, аднаўляючы ў ім свой вобраз і падабенства.

Штучнае перарыванне цяжарнасці глыбока раніць таксама здзяйсняльніка гэтага граху, асаблівым чынам маці, і пакідае ў душы свой след і вялікае пачуццё віны. У Апостальскай адгартацыі "Reconciliatio et paenitentia" святы Папа Ян Павел II прыпамінае, што любоў Божая большая чым грэх, таму вернік, спазнаўшы любоў Бога, адказвае таксама любоўю, якая схіляе яго прасіць аб прабачэнні і адкрывае на дар паяднання.

# Самагубства ў стане псіхічнага расстройства – грэх?

*"Хвала Хрысту! Мая сяброўка, знаходзячыся ў стане псіхічнага расстройства, павесілася. Яна ніколі б гэтага не зрабіла, калі б яе розум не памутнеў. Ці лічыцца грахом, калі яе дзеянні не былі ўсвядомленымі?"*
*Святлана*

**На пытанне адказвае айцец Аляксандр Махнач SP:**

– Вялікі старажытны філосаф Арыстоцель казаў, што "самагубства – гэта, хутчэй, праява слабасці перад цяжкасцямі". Самагубства пазбаўляе чалавека магчымасці шкадаваць за ўчыненыя грахі і адпакутаваць за іх.

Божы Закон вычуць нас, што забойства – гэта парушэнне пятай Божай запаведзі. Сучасная псіхалогія кажа, што большасць самагубстваў – гэта вынік псіхічных разладаў асобы. Могуць праяўляцца выпадкі, калі чалавек цалкам свядома і добраахвотна адмаўляецца ад свайго жыцця як ад Божага дару, хочучы такім чынам прадэманстраваць сваю пагарду да Творцы.



Філосаф Сартр меркаваў, што самагубства як адмаўленне Бога з'яўляецца самым вялікім праяўленнем свабоды чалавека.

Хрысціянскае ж вучэнне нам кажа, што жыццё – гэта Божы дар, і яно належыць Богу. Ён – Пан жыцця і смерці. Калі чалавек адкідвае гэты дар з намерам адкінуць Бога, то, несумненна, гэта смяротны грэх! Чалавек, які здзяйсняе такі чын, псіхічна хворы. Здаровы псіхічна чалавек не пазбавіць сябе жыцця! Прычыны такога стану чалавека могуць быць вельмі рознымі.

У дадзеным выпадку не можна казаць пра поўную свядомасць намеру чалавека, бо нешта пачынае адбывацца з ім, над чым ён сам ужо не можа запанаваць. Тут больш можна казаць пра цярпенне, чым пра віну асобы.



# Пераход з праваслаўя ў каталіцтва. Ці ёсць перашкоды для хрышчэння дачкі?

*"Laudetur Jesus Christus! Мяне хрысцілі ў праваслаўнай царкве, аднак бацькі – людзі неўцаркоўленыя, а я з дзяцінства хацела належаць да каталіцкага веравызнання. Тры гады таму, грунтоўна вывучыўшы гісторыю і асноўныя догмы каталіцтва, я прыняла ўсвядомленае і цвёрдае рашэнне далучыць сябе да католікаў і пачала хадзіць у касцёл. Там я адчуваю сябе так, нібы вярнулася дадому з далёкага шляху, мне вельмі светла і добра, рэдка я выходжу з Імшы без слёз, настолькі мяне перапаўняюць эмоцыі. На жаль, я яшчэ шмат чаго не ведаю, чагосьці не разумею і вельмі гэтага саромеюся. Але, наколькі мне вядома, перахрышчвацца не трэба, бо Бог адзін і вера хрысціянская таксама адна.*

*Крыжык на мне каталіцкі. Тры месяцы таму ў мяне нарадзілася дачушка, і я хачу хрысціць яе толькі ў касцёле! Хросныя ў нас ёсць, выдатная пара католікаў, якія дапамогуць мне выхаваць дачку ў каталіцкай веры. Скажыце, ці ёсць якія-небудзь перашкоды для хрышчэння (напрыклад, тое, што я «самазванка»)? Як мы павінны падрыхтавацца да хрышчэння? Дадам, што муж, на жаль, да Бога пакуль не прыйшоў, хоць у праваслаўі ахрышчаны. Вядома, мы не бралі шлюб. Хоць мне вельмі хацелася б гэтага, няхай і праз шмат гадоў. Не пакіньце маё пытанне без увагі. Вялікі дзякуй".*
*Ганна*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель:**

– In saecula saeculorum! Згодна з "Кананічным Правам Каталіцкага Касцёла", з пераходам у каталіцтва Вы сталі каталічкай візантыйскага абраду (у Беларусі больш вядомая назва "ўніяты", або "грэка-каталікі"). Сакрамант хросту ўдзяляецца з ведама і згоды пробашча, да парафіі якога Вы належыце. У Вашым выпадку гэта будзе грэка-каталіцкі святар, калі ў горадзе, дзе Вы жывяце, ёсць грэка-каталіцкая парафія. У выпадку, калі ў Вашай мясцовасці няма грэка-каталіцкай парафіі, хрост мае права ўдзяляць рыма-каталіцкі святар. З дадзеным пытаннем Вам варта звярнуцца да пробашча ў Вашым касцёле.

Каталіцкі ВЕСНІК №1(58) студзень 2016 г.

**Касцёл у Новалукомлі.** *Фота Сержука Серабро, www.radzima.org*

# Дзякуем святарам!

## Ліст з Новалукомля

Дазвольце падзяліцца на старонках газеты сваімі думкамі і разважаннямі. Спачатку хачу сказаць “вялікі дзякуй” супрацоўнікам газеты за іх працу, за магчымасць ведаць пра ўнутрыпарафіяльнае жыццё парафій Віцебскай дыяцэзіі. Газета вельмі патрэбная. Чытаем яе ад першага нумара і радуемся, што вера каталіцкая расце і ўзмацняецца. Вельмі радуе, што вернікі дасылаюць лісты ў газету, пішуць пра парафіяльнае жыццё, пра ахвярную працу сваіх душпастыраў і дзякуюць святарам за іх паслугу. Усе святары – выбраннікі Бога, пасланыя служыць Богу і людзям, клапаціцца пра сваіх парафіян, праз сваю паслугу даносіць да людзей Божую праўду, навучаць і натхняць жыць згодна з Евангеллем.

Але справа ў тым, што кожны святар жыве сярод людзей, працуе сярод людзей, якія маюць розны менталітэт. У заходняй частцы дыяцэзіі вера існавала здаўна, многія касцёлы працавалі і ў часы камуністычнага рэжыму, людзі маліліся і там, дзе касцёлы былі зачыненыя. Ва ўсходняй частцы Віцебскай дыяцэзіі вера была ў занядбанні альбо яе зусім не было, як у нас, у Новалукомлі. Тут было адно бязвер'е.

У далёкім 1964 годзе сюды з розных куткоў былога Саюза прыехалі камсамольцы, каб будаваць электрастанцыю. На пустцы пабудавалі горад Новалукомль. Толькі ў канцы 90-х дзякуючы неймаверным высілкам **ксяндза-пралата Мечыслава Янчышына** была зарэгістравана каталіцкая парафія і пачалося будаўніцтва касцёла. Усё было вельмі нялёгка і няпроста. Касцёл мы будавалі на месцы былой занядбанай гарадской кацельні. Зусім невыпадкова мы далі нашай парафіі імя святой Марыі-Магдалены.

У той час ксёндз Мечыслаў аб'язджаў пяць раёнаў, каб правесці святую Імшу, каб абуджаць веру, каб адбудаваць разбураныя касцёлы. Гэта Лепель, Ула, Ушачы, Новалукомль. Распачаў працу і арганізаваў парафію ў Чашніках. Вельмі шкада, што гэты мудры, руплівы святар пакінуў Беларусь.

Пасля ксяндза Мечыслава Янчышына у нас працавалі **ксяндзы Юрый Жаўняровіч, Генадзь Блізнюк**, якія працягвалі працу па адбудове касцёла. З 2011 года ў Новалукомлі працуе вельмі мудры, адказны, таленавіты **ксёндз Аляксандр Баран**. Шмат сіл, энергіі спатрэбілася, каб падвесці газ, упарадкаваць прыкасцельную тэрыторыю. Дзякуючы руплівай працы ксяндза Аляксандра на тэрыторыі пасаджаны дэкаратыўныя дрэвы, кветкі, у касцёле ствараюцца прыгожыя дэкарацыі, парафія расце і развіваецца. Рэгулярна праводзяцца катэхезы з дзецьмі, кожны год адбываецца Першая Камунія, дзеці адпачываюць у летніках, за мяжой.

Мы, парафіяне, удзячныя пробашчу, што ён прыкладае столькі сіл і энергіі, каб наша парафія павялічвалася і развівалася, нягледзячы на цяжкасці і перашкоды. Мы дзякуем усім святарам, якія працавалі ў нашай парафіі альбо даязджалі на рэкалекцыі, падавалі нам хлеб Слова Божага і Хлеб Эўхарыстычны.

**Дарагі наш пробашч Аляксандр! Шчыра дзякуем Вам за ахвярную працу, за добрае сэрца, за прыгожыя малітвы і казанні, за цёплыя адносіны да ўсіх вернікаў, за мудрыя парады, за прыгажосць, якую ствараеце сваімі рукамі!** Мы просім Пана Бога, каб Вы як мага даўжэй заставаліся ў нашай парафіі. Віншуем Вас і ўсіх святароў Віцебскай дыяцэзіі з надыходам свята Божага Нараджэння!

***З вялікай павагай, пашанай і любоўю да ўсіх святароў Віцебскай дыяцэзіі, вернікі парафіі святой Марыі-Магдалены, г. Новалукомль***

**Ад рэдакцыі.** Гэты ліст павінен быў надрукаваны ў мінулым нумары нашай газеты. Але па тэхнічных прычынах (у рэдакцыі адключылі электрычнасць) гэты матэрыял знік з макета газеты. Таму **прыносім свае прабачэнні** перад аўтарамі ліста і чытачамі газеты за гэту тэхнічную памылку.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## З падзякай у сэрцы

*Два гады ў нашай парафіі святых Пятра і Паўла ў Дрысвятах працаваў **ксёндз Юрый Жаўняровіч** – малады, энергічны, працалюбівы, добрасумленны чалавек, сапраўдны гаспадар. За час яго працы ў нашай парафіі адбылося шмат змен да лепшага. Сіламі ксяндза Юрыя, яго бацькі і брата быў праведзены знешні рамонт касцёла, упарадкавана прыкасцельная тэрыторыя. Быў аднаўлены крыж, які і зараз сустракае нас, калі заходзім у брамку святыні. Маладому святару давялося прайсці сапраўдны іспыт на цярпенне. У той час у касцёл хадзілі пераважна пажылыя людзі і маліліся на польскай мове. Дзякуючы ксяндзу Юрыю ў святыні ўсё часцей і часцей сталі звінець дзіцячыя галасы, прыходзіць маладыя сем'і, загучала беларуская мова. Мы памятаем яго павучальныя казанні, цудоўны голас, дасканалае веданне беларускай мовы.*

*31 студзеня ў нашага былога святара дзень нараджэння. З пачуццём глыбокай павагі віншуем шаноўнага ксяндза Юрыя Жаўняровіча і жадаем, каб Пан Бог адорваў яго ўсімі дабротамі, каб ён доўга служыў людзям і Богу.*

*А яшчэ хочацца сказаць словы падзякі бацькам і брату ксяндза Юрыя за шчырую і добрасумленную дапамогу нашай парафіі.*

***З павагай, парафіяне з Дрысвят (Браслаўскі раён)***

## Віншаванне з Чашнікаў

**Хвала Хрысту!**
**Са светлым святам Божага Нараджэння!**
**З Новым годам!**

*Сардэчна віншуем усіх супрацоўнікаў газеты «Каталіцкі Веснік», гэтай добрай весткі ў кожным доме, усіх чытачоў, якія любяць яе і з нецярпеннем чакаюць Божых навін.*

*Асаблівыя і сардэчныя словы віншаванняў дасылаем быламу біскупу нашай дыяцэзіі Уладзіславу Бліну, біскупу Алегу Буткевічу, усім святарам, клерыкам, якія працавалі і прыязджаюць да нас у Чашнікі: Генадзю Добруку, Яцэку Маркоўскаму, Мечыславу Янчышыну, Славаміру Самковічу, Юрыю Жаўняровічу, Анджэю Бульчаку, Аляксандру Барану. Зычым Божай ласкі і плёну на доўгія гады вашай святарскай паслугі! Мы памятаем, паважаем, любім і ніколі не забудзем тых, хто дапамагаў і дапамагае нашаму касцёлу.*

*Шчыра жадаем людской павагі і дабрыні, з радасцю выконваць святарскія абавязкі, нястомна служыць Каталіцкаму Касцёлу. Жадаем, каб Год Міласэрнасці, які распачаўся 8 снежня, стаў асабліва спрыяльным у вашым служэнні, каб вы атрымалі яшчэ большае ўсведамленне важнасці і неабходнасці той Божай паслугі, якую выконваеце на карысць людзям. Прыміце нашы шчырыя падзякі! Паклон вам нізкі!*

*Нізка кланяемся і дзякуем вашым бацькам, шчыра віншуем іх са святамі!*

*Сардэчна запрашаем усіх вас на нашу чашніцкую зямлю, прыязджайце да нас! Мы заўсёды рады сустрэчы з вамі, тым больш што маем такі вялікі і прыгожы касцёл!*

*Радасных, шчаслівых, поўных Божай ласкі і прысутнасці Міласэрнага Хрыста ў нашых сэрцах дзён новага года, Года Божай Міласэрнасці!*

***З малітвай, вернікі чашніцкага касцёла***

**Касцёл у Чашніках.** *Фота Леаніда Юрыка*

## Шчыра віншуем!



*З нагоды гадавіны біскупскіх пасвячэнняў шчыра віншуем нашага шаноўнага і ўсімі любімага **біскупа Алега Буткевіча!***

*Жадаем поспехаў на няпростым шляху Божага паклікання, добрага здароўя, дапамогі Пана Бога і апекі Маці Божай. Дзякуем Вам за Вашу працу, за шчырасць і адданасць, наш дарагі біскуп!*

***З любоўю, павагай і ўдзячнасцю, святары, сёстры законныя і ўсе вернікі Пастаўскай парафіі***

## Віншуем!



*З студзеня свой дзень нараджэння адзначыў наш любімы пробашч **кс. Анджэй Юхневіч OMI**. Сумленна і шчыра аддаецца ён служэнню Богу і людзям, атуляючы клопатам і любоўю кожнага: ад маленькіх дзяцей і моладзі да старых бабуль і дзядуль. Пан Бог надзяліў кс. Анджэя многімі талентамі і асаблівым дарам прапаведніка: яго словы здольныя ўзрушыць самае закамянелае сэрца і выклікаць слёзы пакаяння. Сучасная маладога беларускага ксяндза, які з'яўляецца наш айцец Анджэй, Пан Бог можа скіраваць па розныя шляхі, але дзе б ён ні апынуўся – ці ў сусветных сталіцах, ці ў маленькіх мястэчках, – за яго моляцца і шчыра любяць на Шумілінічыне!*

*Сардэчна жадаем айцу Анджэю Юхневічу спаўнення з Божай дапамогай усіх задумаў, асвячальнай ласкі Духа Святога, апекі і дапамогі Найсвяцейшай Панны Марыі. Нізкі паклон матулі кс. Анджэя за выхаванне цудоўнага сына-святара.*

***З любоўю і малітвай за Вас, вернікі парафіі Маці Божай Фацімскай (г.п. Шуміліна)***

## Віншуем! Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шчыра віншуем **біскупа Алега Буткевіча** з нагоды гадавіны біскупскіх пасвячэнняў, якія ён адзначае 18 студзеня!*

*Найперш дзякуем Пану Богу, бо гэта з Яго святой волі сталася, што з нашай Браслаўскай парафіі паходзіць ардынарый Віцебскай дыяцэзіі. Вельмі цешымся і ганарымся Вамі, біскуп Алег, заўсёды памятаем пра Вас у малітве.*

*Дзякуем Вам за самаадданую працу, за Вашу добразычлівасць, прыветлівую ўсмешку, за добрыя словы і змястоўныя казанні, якія захапляюць кожнага чалавека мудрасцю, велічнасцю і прастатой.*

*Праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі Валадаркі Азёраў шчодрых дароў Духа Святога для Вас просім. Жадаем поспехаў у працы і Божай дапамогі ва ўсіх Вашых марах, натхнення для далейшага плённага служэння Хрысту і яго Святому Касцёлу.*

***Хай ад Бога Айца***
***Вам здароўе і сіла даецца,***
***І, як сэрца Езуса,***
***Праменіцца Вашае сэрца!***
***Хай ад Духа Святога***
***Даецца Вам мудрасць і ўменне,***
***А ад Божае Маці –***
***Ласкавасць, разважнасць, цярпенне!***

*Супакой Хрыста няхай заўсёды будзе з Вамі!*

***З пашанай і падзякай, святары, сёстры-эўхарысткі і вернікі Браслаўскай парафіі Нараджэння Маці Божай***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем пяшчотныя словы віншавання, вялікай удзячнасці, радасці і гонару нашаму **былому пробашчу Анджэю Бульчаку**.*

***Шаноўны ксёндз Анджэй!***

*Сардэчна віншуем са светлымі святамі Божага Нараджэння і Новага года і дзякуем Вам за добрае сэрца, за чалавечнасць і прастату, за чыстую, светлую і чуйную душу, за разуменне і цярпенне. Вы паказалі прыклад адданага служэння Богу, шмат зрабілі і зараз робіце для нас, пажылых, пенсіянераў, а асабліва для моладзі. Вы былі для нас сапраўдным сведкам Езуса Хрыста і каталіцкай веры. Духоўна яднаемся з Вамі, памятаем пра Вас і заўсёды падтрымліваем. Няхай наша штодзённая малітва дорыць Вам вялікае натхненне для далейшай высакароднай і ахвярнай працы на карысць Богу і людзям! Здароўя, міру, дабра і цяпла, радасных і сонечных дзён! Хай шчасце і радасць будуць пастаяннымі спадарожнікамі ў Вашым жыцці!*

*Нізкі паклон і вялікая ўдзячнасць Вашым бацькам, родным, сябрам, якія дапамагалі будаваць наш касцёл! Няхай Добры і Міласэрны Бог за ўсё добрае ім аддзячыць!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, парафіяне касцёла Перамянення Панскага ў г. Чашнікі***

## Хвала Хрысту!



*27 студзеня адзначае дзень нараджэння **кс. Аляксандр Рагіня**, які цяпер выконвае дыпламатычную місію ў дзяржаве Чад, у Афрыцы.*

*Мы памятаем кс. Аляксандра, калі ён працаваў у нашым касцёле,якінтэлігентнага, эрудыраванага, адданага Пану Богу святара.*

*Ад усяго сэрца віншуем Вас, паважаны кс. Аляксандр! Няхай засеянае Вамі зерне на Божай ніве прыносіць добры плён! Няхай Пан Бог шчодра адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, а Дух Святы ўзмацняе і памнажае Вашу мудрасць, падтрымлівае ў цярпенні ў далёкай краіне! Моцнага Вам здароўя, духоўнай і фізічнай вытрымкі, Божай ласкі і дабрыні. А Маці Божая няхай акрывае Вас сваім плашчом апекі!*

*Мы заўсёды рады сустрэчы з Вамі на нашай глыбоцкай зямлі, паважаны кс. Аляксандр.*

***Ад імя вернікаў касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім, Даната Сярогіна***

## Паважаны айцец Андрэй Жылевіч!



*З нагоды свята Божага Нараджэння дасылаем букет найлепшых пажаданняў, спалучаных з малітвай, Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, Анёлаў-Ахоўнікаў, дароў Святога Духа, сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых намераў, а таксама зычлівых і добрых людзей на святарскім шляху! Дзякуем Богу за Вас, а Вашым бацькам – за сына Святара!!!*

***Сям'я Гайдзіс***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Нараджэнне Хрыста – незвычайнае, добрае і цёплае свята, калі мы ўсе, як дзеці, чакаем цуду. І Бог як клапатлівы Бацька суцяшае нас і дорыць нам цуды, пра што сведчыць шэраг падзей, якія адбыліся ў нашым прыходзе ў апошня месяцы.

А пачалося ўсё з таго, што наша парафія ў перыяд Адвэнту ўпершыню даведалася пра незвычайную святую Імшу – Рараты. З ранняга часу ў касцёл збіраліся вернікі, у тым ліку і вернікі, што працуюць, а таксама студэнты, школьнікі. Перад пачаткам працоўнага дня мы прыходзілі пакланіцца Дзеве Марыі і асвяціць свае будзённыя справы. Прыход на Рараты падахвочваў у нас дух чакання і сілкаваўся ў нашых сэрцах Словам і Святой Камуніяй. А як прыгожа разыходзіліся вернікі з касцёла са свечкамі, што сімвалізуюць Святую Дзеву, Якая, быццам ранішняя зара, абвясціла ўзыход Сонца-Праўды – Езуса Хрыста!

Увесь перыяд Адвэнту побач з алтаром можна было ўбачыць вянок з яловых галінак з чатырма свечкамі ў ім. Падчас святой Імшы запальваліся адна ад адной усе чатыры свечкі

# Ліст падзякі з Пагошчы

– у залежнасці ад таго, які тыдзень посту мы перажывалі.

Пасля Вігіліі ўсе сем'і аграгарадка і найбліжэйшых вёсак прыйшлі ў касцёл на Пастэрку, дзе абмяняліся кавалачкамі аплаткі з пажаданнямі адно аднаму здароўя і шчасця, папрасілі прабачэння за нанесеныя крыўды.

Калядная батлейка – падабенства пячоры, дзе нарадзіўся Езус, – збудаваная пры ўваходзе ў касцёл, прыцягвала жыхароў усяго раёна. Тут фігуркі Маці Божай, св. Юзафа, вешчуноў, пастухоў, а таксама жывёл, якія грэлі сваім подыхам Божае Дзіцятка.

Каляднай ноччу падчас Імшы ў яслі ксёндз Славамір паклаў фігурку Збаўцы. І як цяжка апісаць словамі тыя пачуцці, што зведваеш, калі побач з табой праходзіць святар, беражліва, з трымценнем несучы фігурку Дзіцятка Езуса! Здаецца, быццам сэрца спыняецца, на якоесьці імгненне ты перастаеш адчуваць сябе ў рэальным свеце і апускаешся ва ўсеабдымную і ўсёпаглынальную любоў!

Мы таксама сустракалі Новы год у касцёле. На сустрэчу прыйшло шмат вернікаў. Але ўсяго гэтага магло б і не быць, калі б не **наш пастыр Славамір Самковіч**, які змог за кароткі перыяд стварыць у нас сапраўдную каталіцкую парафію. Мы дзякуем яму за нястомнасць служэння Богу і Рыма-Каталіцкаму Касцёлу, за чулы духоўны слых, за здольнасць прымаць у сваё сэрца кожнага з нас і маліцца за нас.

**Дзякуем таксама Богу і біскупу Алегу Буткевічу за сустрэчу**



**з нашым пробашчам, за радасць і шчасце сумеснага лёсу і працы!**

***Удзячныя парафіяне Пагашчанскай парафіі Божай Міласэрнасці***

# Твори добро
# Разговор о милосердии

**Все мы прекрасно знаем, что 8 декабря 2015 года Католическая Церковь начала Юбилейный Год Милосердия.**

■ **Марина Ткач**, *социальный педагог, психолог*



За этот непродолжительный период времени мы слышали огромное количество рассказов о милосердии, призывов жить в духе милосердия как от Папы Римского Франциска, так и от иных представителей духовенства.

Поэтому сегодня я хочу поговорить с вами именно о милосердии и о том, как овладеть этим качеством современному человеку.

И, как всегда, для начала давайте ответим на вопрос: что же такое милосердие?

**Милосердие** – это доброе и сострадательное отношение к человеку, на основе любви к Богу и к человеческой душе. Милосердие предполагает принятие, то есть терпимое отношение к несовершенству других, способность не осуждать (уметь прощать), а терпеливо помогать, проявляя истинную доброту в делах и чувствах своих. Таким образом, милосердие предполагает раскрытые в человеке качества – доброты, любви, сострадания и сочувствия, прощения.

Не всем людям присущи такие качества, как доброта и милосердие. Более того, нередко можно услышать утверждения, что в нынешнее время они не очень-то и нужны. И действительно, для современного общества, как это ни печально, характерно стремление убрать из жизни и вырвать из сердца человеческого само понятие милосердия. Кажется, что идея милосердия и само слово, его обозначающее, ныне становятся некой помехой, чем-то нежелательным для современного человека, ставшего, благодаря невиданному в истории научно-техническому прогрессу, хозяином земли.



Наша жизнь сегодня направлена в большей степени на потребление, на то, что мы должны взять по максимуму от этой жизни, а не отдавать. Однако это совершенно неверно. Нельзя все время только брать, брать, брать, при этом не отдавая что-то взамен… И в этом плане милосердие как качество личности может переориентировать нас с позиции потребления на возможность отдавать частичку добра, любви, внимания и заботы.

Но все-таки встает вопрос: для чего необходимо милосердие? Во-первых, милосердие является положительной эмоцией и способно защитить от негативных факторов, таких как страх, гнев, зависть и мстительность.

> **«каждый милосердный поступок – это ступень лестницы, ведущей к небесам»**

Доктор психологии здоровья Стэндфордского университета Фредерик Лускин считает, что милосердие снижает опасное воздействие этих эмоций на здоровье человека, уменьшает число стрессовых ситуаций и развивает такие положительные черты характера, как оптимизм, надежду, терпение и уверенность в себе.

Во-вторых, помогая тем, кто слабее, кто оказался в трудной жизненной ситуации, мы тем самым демонстрируем свои лучшие моральные качества. А сталкиваясь с чужой бедой, зачастую начинаем по-другому оценивать и собственную жизнь, и систему ценностей. Те неприятности, проблемы, которые раньше казались существенными, доставляли сильный моральный дискомфорт, на фоне чужого горя могут показаться совершенно незначительными.

И в-третьих, представьте хотя бы на несколько минут общество, состоящее сплошь из черствых, безразличных себялюбцев. Где вам не только не приходится рассчитывать на чью-либо помощь, поддержку, но и поминутно надо опасаться козней и недоброжелательных поступков. Захотели бы вы жить среди таких людей? Очень в этом сомневаюсь.

Доброта и милосердие помогают людям оставаться людьми, как бы высокопарно это ни звучало. При желании и терпении любой человек может овладеть этими достойными качествами.

Так что же нужно сделать для того, чтобы жесткий цензор, каким является современное общество, не смог погасить в наших душах и сердцах искорки милосердия и добра.

### 1. Для начала нужно избавиться или хотя бы умерить свой эгоизм

Именно эгоизм и приоритет собственных желаний не позволяет нам увидеть окружающих нас людей, помочь им, проявить заботу и внимание. Мы так привыкли жить по принципу «Пусть кто-нибудь другой, но не я…». А вдруг этот кто-то другой так и не найдется?

Откройте себя миру. Не ищите помощи для себя, а станьте сами полезны другим. Помогайте людям и признавайте их таланты, интересуйтесь другими. Это первый шаг к избавлению от эгоизма.

### 2. Благодарите людей за их усилия

Одним из наиболее важных качеств милосердного человека является способность благодарить людей за их усилия, независимо от того, насколько большими или маленькими они были.

### 3. Будьте хорошим слушателем

Не ориентируйтесь на собственные проблемы, проявляйте больше заботы о других людях, чем о себе. Сделайте усилие, чтобы действительно услышать то, что человек вам говорит. Старайтесь, чтобы он почувствовал, что вы действительно хотите помочь ему.

### 4. Дайте людям презумпцию невиновности

Не ищите способов унизить человека, критиковать его или заставлять чувствовать себя мелкой сошкой. Мы должны сделать совершенно противоположное. Даже если мы не уверены в намерениях человека, все равно нужно стараться придерживаться положительных вещей и представлять, что люди также хотят лучшего для всех. Вместо того чтобы сплетничать или говорить что-то негативное о человеке, которого вы не знаете, представьте, что он хороший, как и вы.

### 5. Старайтесь всегда видеть в людях хорошее

### 6. Позволяйте другим быть первыми

Быть милосердным – это говорить «после вас» в прямом и переносном смысле. Если вы хотите быть милосердным, вы должны уступить другому право заказать мороженое, прежде чем вы решили убить свою тягу к шоколаду, или же позволить автомобилю развернуться перед вами, даже если вы опаздываете на работу. Это мышление. Другие люди должны идти перед вами, и это действительно не так важно: вы сделаете свой шаг в любом случае, и вы будете более добрым к другому человеку.

Однако это не значит, что вы должны позволять людям идти перед вами все время. Это значит, что вы должны уступить другим, когда это разумно.

▶

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**24 студзеня 2016 г.**

***Лк 1, 1-4. 4, 14-21***

Езус дзейнічае ў моцы Святога Духа. Распачынаючы сваю публічную дзейнасць, Езус цытуе тэкст прарока Ісаі, які ілюструе праграму Яго дзейнасці. Свае словы Ён пацвярджае і ўчынкамі. Ён чаканы Хрыстус – Збаўца ад Бога. Мы ведаем, што Ён – Бог, Які асабіста вырашыў нас збавіць. Ён прыйшоў да ўсіх. Асабліва да слабых, пакрыўджаных, убогіх. З Яго прыйсцем распачынаецца час ласкі. Словы пра Месію, Які абвяшчае час ласкі, асаблівым чынам гучаць у гэтым юбілейным годзе. Сапраўды, Езус прыйшоў, і з гэтага часу мы маем час ласкі, час новага завету, які нас вядзе да вечнага з'яднання з Богам.

*– Ці прымаю я Езуса ў сваё жыццё?*

*– Ці з'яўляецца навука Хрыста для мяне добрай навіной?*

*– Ці правільна разумею Яго навуку?*

*– Ці не ўспрымаю Яго навуку як чарговую прапаганду, якой не хочацца слухаць?*

*– Ці разумею, што навука Касцёла – гэта натхнёная Святым Духам Божая навука?*

*– Ці з'яўляюцца для мяне Божы Закон і Божая навука падтрымкай, суцяшэннем, святлом, мудрасцю, надзеяй, радасцю?*

*– Калі не, то чаму?*

*– Ці ведаю навуку Хрыста?*

*– Ці ўспрымаю яе як навуку Хрыста-Бога, а не як мёртвы закон?*

*– Ці веру, што ў маёй бядзе і няволі Езус можа быць маім жыццём?*

*– Ці шукаю ў Яго ласкі і ацалення?*

*– Ці іду да ўбогіх са словам ласкі і суцяшэння?*

*– Ці абвяшчаю словам і жыццём Добрую навіну пра Бога, Які прыносіць нам вечнае збаўленне?*

**31 студзеня 2016 г.**

***Лк 4, 21-30***

Ужо ў пачатку публічнай дзейнасці Хрыста, паводле евангеліста Лукі, знаходзім непрыняцце Езуса. Езус адкрыта гаворыць пра тое, што многія не прымаюць Божага дзеяння тут і цяпер. Прыводзіць прыклады з гісторыі Ізраіля, з якіх бачна, што і раней былі праблемы з адкрытым прыняццем Божай інтэрвенцыі ў жыццё ізраільцянаў. Езус быў адкінуты праз сваіх, але перамог іх нянавісць да праўды.

*– Ці веру я, што Бог прыйшоў да мяне і для мяне?*

*– Ці веру, што Ён прысутны ў маім жыцці, у жыцці маёй сям'і, маёй Бацькаўшчыны?*

*– Ці веру, што слова, якое чытаю ў Біблii і якое абвяшчае Касцёл, – гэта слова Бога?*

*– Ці веру, што Ён гаворыць да мяне?*

*– Ці веру ў дзеянне Святога Духа ў маім сэрцы і сумленні?*

*– Ці паважаю аўтарытэт Касцёла, устаноўленага Хрыстом для тлумачэння Яго навукі?*

*– Ці не спрабую забіць Божыя натхненні ў сваім сэрцы?*

*– Ці не гляджу толькі па-свецку на Божыя справы?*

*– Ці не лічу навуку Касцёла прапагандай, а Езуса – міфічным героем? (Калі так, то зразумела, чаму не стаўлюся з верай да Божай навукі).*

*– Што раблю, каб з верай ставіцца да вучэння Хрыста?*

*– Як буду гаварыць і вучыць пра Хрыста, каб слухачы пачулі, што веру і што абвяшчаю жывога Бога?*

**7 лютага 2016 г.**

***Лк 5, 1-11***

Езус будуе супольнасць апосталаў. Набліжаецца да Пятра і просіць дазволу пакарыстацца лодкай. Пётр дазваляе, можна сказаць, упускае Езуса ў сваё жыццё. Пасля абвяшчэння слова Езус умацоўвае веру Пятра. Настойвае, каб той закінуў сеткі ў ваду, нягледзячы на прафесійны вопыт Пятра. Але Пётр даверыўся слову Хрыста і ўбачыў вялікі цуд! Пётр разумее, што гэта справа Божая, і вызнае сваю грэшнасць. Тым часам Езус кліча Пятра. Чалавека, які ўпусціў Яго ў сваё жыццё, слухаў Яго слова, даверыўся Яму, убачыў Божае дзеянне, прызнаў сваю грэшнасць. Езус кліча Пятра з адвагай ісці за Ім. Пётр пачуў і пайшоў.

*– Ці дазваляю я Богу, Які набліжаецца да майго жыцця, зайсці ў лодку маёй штодзённасці?*

*– Ці слухаю Яго слова?*

*– Ці давяраю Яго прапанове, скіраваным да мяне?*

*– Ці не лічу, што я лепш ведаю?*

*– Ці бачу магутнасць Яго слоў?*

*– Ці прызнаюся ў сваёй недасканаласці і недахопе любові – гэта значыць, у граху?*

*– Ці чую я, слабы і малы, словы Езуса: не бойся, ідзі за Мной?*

*– Ці гатовы я пакінуць хоць што-небудзь, каб ісці за Ім?*

**14 лютага 2016 г.**

***Лк 4, 1-13***

Д'ябал спакушае Езуса ў пустыні. Змаганне за любоў – гэта не толькі змаганне з нашай слабасцю, а таксама змаганне з непрыяцелем. Д'ябал спакушае кожнага з нас, каб збочылі з дарогі любові. Для гэтага ён выкарыстоўвае слабасць нашай натуры. Яго зброя – гэта хлусня. Яго мэта – пакрыўдзіць Бога, Які паклікаў нас да жыцця ў любові як сваіх усыноўленых дзяцей. Хрыстус – першародны Божы Сын –для нас з'яўляецца ўзорам вернасці Айцу. Ён не паставіў сваю волю над воляй Айца. Не пайшоў на тое, каб звесці сваю місію толькі да чалавечага вымярэння. А таксама не засумняваўся ў вернасці Бога і ў тым, што Ён выканае сваё абяцанне. Езус – пераможца д'ябла.

*– Ці хачу жыць паводле Божага закону, г.зн. паводле закону любові?*

*– Ці разумею, што, каб любіць, даводзіцца змагацца з самім сабой, з сапсаванасцю сваёй натуры?*

*– Ці ўсведамляю сваю схільнасць да зла?*

*– Ці працую духоўна, каб прывучыць сябе да дабра?*

*– Ці памятаю, што д'ябал – інтэлігент, які хоча адвесці мяне ад дабра?*

*– На якія слабыя месцы націскае д'ябал, каб адвесці мяне ад дабра?*

*– Што раблю, каб не патрапіць у пастку?*

*– Ці часта спавядаюся?*

*– Ці карыстаюся духоўным настаўніцтвам?*

*– Ці разважаю над Божым словам?*

*– Ці раблю рахунак сумлення?*

*– Ці маю праграму працы над сабой?*

*– Ці веру ў перамогу Хрыста ў маім жыцці?*

*– Чыю волю выконваю: сваю ці Божую?*

*– Ці гляджу на жыццё толькі па-людску або ўсё ж такі па-Божаму?*

*– Ці сумняваюся ў Божай вернасці?*

*– Ці дзякую Богу і ці праслаўляю Яго за ласкі, якімі Ён мяне адарыў?*

*– Ці раблю праз гэта сваё сэрца здольным убачыць Божае дзеянне і ўмацаваць у ім веру ў Божую вернасць?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***

**7.**
**Будьте щедры**

Будьте людьми, которые всегда ищут способ помочь другим, говорим ли мы о ваших ближайших друзьях или о совершенно незнакомых людях, которые нуждаются в помощи. Развивайте щедрый дух, который всегда ищет путь, чтобы помочь другим людям в совершенствовании и расширении их жизни.

Для того, чтобы быть милосердным, совсем не обязательно быть миллионером, помогая при этом материально, иногда достаточно небольшого количества любви и заботы.

**8.**
**Занимайтесь волонтёрством**

Подарите своё время людям, которые действительно в нем нуждаются, помогите, если есть возможность, какой-либо благотворительной организации, работая при этом, например, в столовой для бедных, приюте для бездомных или в другом месте, где вы можете помочь нуждающимся.

Ведь, как сказал Генри Бичер, *«каждый милосердный поступок – это ступень лестницы, ведущей к небесам».*

**9.**
**Покажите людям, что вы действительно заботитесь о них**

Это заставляет людей чувствовать себя важными. Делайте вещи, которые заставляют вас и других людей чувствовать себя великолепно. Они будут чувствовать себя важными, потому что вы нашли время, чтобы учиться у них.

Но при этом необходимо помнить, что все хорошо в меру. Увы, бывают случаи, когда доброго и милосердного человека облагодетельствованные им люди пытаются превратить в своеобразную «скорую помощь» на все случаи жизни. Такие попытки следует деликатно, но твердо пресекать. В противном случае вам просто сядут на шею.

Хочется сказать, что милосердный человек – человек с богатым внутренним миром. Душа такого человека – источник силы личности, милосердие – состояние его души.

И в заключение, по традиции, я хочу поделиться с Вами одной притчей, которая, как мне кажется, подходит к теме сегодняшнего разговора.



*Однажды старец гулял по морскому берегу и вдруг заметил мальчика, поднимавшего что-то с песка и бросавшего в море. Когда он подошел поближе, то увидел, что тот берёт с песка морские звезды, выкинутые на берег недавним штормом и бросает их обратно. Морские звёзды окружали его со всех сторон, весь берег был буквально усеян ими на несколько сотен метров.*

*– Зачем ты бросаешь эти морские звёзды в воду? – спросил он мальчика, подходя ближе.*

*– Прилив начнется только завтра утром, но если они останутся на берегу до завтрашнего утра, то, скорее всего, погибнут, – ответил малыш, не прерывая своего занятия.*

*– Но оглянись и посмотри вокруг, на берег выкинуты тысячи морских звёзд, неужели ты полагаешь, что можешь что-то изменить своими действиями?*

*Мальчик поднял следующую морскую звезду и, бросив её в море, произнес:*

*– Да, я смогу изменить очень многое ... хотя бы для одной звезды!*

*Старец ничего не сказал в ответ, отошел в сторону и подумал. Ведь наша жизнь состоит из мелочей, и очень редко появляется возможность сделать сразу очень много хорошего. Тот, кто ждёт возможности совершить сразу многое, никогда ничего не сделает. А надо не ждать, а учиться проявлять милосердие в мелочах.*

Не ждите удобного повода проявить доброту и милосердие, будьте милосердными сегодня!

Чего себе и всем вам желаю.

# У Оршы адбудзецца зімовая сесія “Школы хрысціянскага жыцця і евангелізацыі”



**Арганізатары сардэчна запрашаюць на “Школу хрысціянскага жыцця і евангелізацыі”.**

**Што такое “Школа”?** Гэта рэкалекцыі, якія служаць духоўнаму аднаўленню. Падчас “Школы” шмат увагі ўдзяляецца Асобе Духа Святога, ёсць тэмы агульнай хрысціянскай фармацыі, а таксама больш спецыфічныя тэмы (напрыклад, служэнне, евангелізацыя і г.д.). Фармацыя на “Школе” працягваецца некалькі гадоў (адсюль назва).

Безумоўна, цяжка парай слоў сказаць, чым адны рэкалекцыі адрозніваюцца ад іншых. Самы лепшы спосаб – хаця б раз прыехаць. Адзіная ўмова – гэта шчырыя пошукі Бога і жаданне пазнаць праўду пра сябе і пра Яго, а для гэтага трэба пакорнае і адкрытае сэрца. Духоўнымі плёнамі “Школы” не могуць скарыстацца тыя людзі, якія ўпэўнены, што яны ўсё ведаюць і іх нішто не здзівіць.

**Шчыра запрашаем** на “Школу” тых, хто прыедзе першы раз, як і тых, хто ўдзельнічае рэгулярна. **Зімовая сесія “Школы” адбудзецца ў два туры: 29-31 студзеня і 5-7 лютага.** Запісацца, а таксама задаць усе пытанні можна па тэлефоне: **+375295641640 (МТС).**

Тэлефанавацца з 18.00 да 22.00 па буднях, у выхадныя – у любы час. Запіс заканчваецца за тыдзень да пачатку рэкалекцый і з’яўляецца абавязковым! Пачатак – у пятніцу а 16.00.

**Адрас правядзення:** Віцебская вобл., г. Орша, вул. Савецкая 6, касцёл св. Юзафа.

## Грамніцы

Словы Марыі Ючкавіч — Музыка Ганны Шакола







## ВАТЫКАНСКАЕ РАДЫЁ

**Навіны з Ватыкана па-беларуску**

**Штодзённа**
ў 21.00 на кароткіх хвалях 6185 кГц.

**Штодзённа**
у 21.00 і 7.20 на спадарожніку Eutelsat Hotbird 13 на канале Radio Vaticana Telepace.

**Кожную нядзелю**
ў 8.55 на хвалях Першай праграмы Беларускага радыё ў FM-дыяпазоне.

**У інтэрнэце**
на старонцы *vatican.by*

# Увага! Падпіска на першае паўгоддзе 2016 года!

**Дарагія сябры!**

***Заахвочваем вас падпісацца на “Каталіцкі Веснік”.***

**Кошт падпіскі:**
на месяц – 8000 рублёў, на 3 месяцы – 24000 рублёў, на 4 месяцы – 32000 рублёў.
Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні “Белпошты”.
Наш падпісны індэкс – 63783

**Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.**

***Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”***





**Каталіцкі ВЕСНІК**
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 366

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3400 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.01.2016 г. у 10.18

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь